*Кніжка пра Дубічы* ➔3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

*У Шудзялаве* ➔ 4



http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 28 (2930) Год LVII | Беласток, 8 ліпеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Журналіст — нялёгкая прафесія

Уршуля ШУБЗДА

**Сёлетнія XXVI Сустрэчы „Зоркі” былі найбольш чаканымі. Да такой думкі давяло мяне тое, што амаль усе дзеці прысутнічалі ў майстар-класах упершыню.**

**Ехалі яны ў Новае Ляўкова са сваімі ўяўленнямі аб тым, што іх тут чакае, а таксама, здаецца, з невялікім усё-такі страхам перад задачымі, якія ім тут наладзіла „Зорка”. Мае таварышы падарожжа ў Новае Ляўкова Янка і Куба весела расказвалі пра свае школьныя прыгоды. Набліжаючыся да месца нашага тыднёвага пражывання, можна было пачуць малітву Янкі:**

***— Божа, цікава ці будуць нармальныя людзі? Каб толькі добры папаў нам сукватарант.***





Фота Ганны Кандрацюк



Калі хтосьці з чытачоў пераняўся тым, каго хлопцы засталі ў кватэры, супакою, што Матэвуша, які прыехаў раней і хутка заняў сабе месца на гары двух’ярусната ложка. Выключыў ён тым самым магчымыя сваркі. Невыпадкова згадала я тэму жаданага ложка на другім ярусе, бо ў амаль усіх пакоях вялося змаганне за гэтае месца. Гэта была настолькі сур’ёзная тэма, што Максім вырашыў падрыхтаваць з яе навіну. Дзякуючы таму ўсе маглі даведацца, хто ў яго пакоі перамог і спіць найвышэй. Паводле рэдактар „Зоркі” Ганны Кандрацюк, саперніцтва дзяцей за ложак паказвае, што маладыя журналісты імкнуцца да таго, каб ісці ўверх, узрастаць. Штосьці ў гэтым мусіць быць. У іншым выпадку напэўна не было б іх на Сустрэчах „Зоркі”.

Ужо першага дня ўзніклі чатыры рэдакцыйныя групы. Галоўнымі рэдактарамі кожнай сталі Оля, Паўліна, Кінга і Лукаш. Але хлопец захварэў ужо першага дня, таму пакінуў сваю каманду і паехаў лячыцца дахаты. Такім чынам засталіся тры рэдакцыі, якія ўзначалілі самыя дзяўчаты. Яны вельмі зручна кіравалі працай сваіх рэдакцый. Дзяўчаты кожнаму прызначылі нейкія задачы: паасобныя групы мелі сваіх графікаў, навіншчыкаў ці асоб, якія прыдумвалі складаныя рэбусы ды крыжаванкі. Адным словам, было ўсё, без чаго цяжка абысціся прафесійнай рэдакцыі. Аднак трэба адзначыць, што на пачатку не было ім лёгка. Можа з-за таго, што сёлета было аж трынаццаць хлопцаў, якія не хацелі падпарадкавацца дзявочаму кіраўніцтву. З кожным днём часцей можна было сустрэць расхваляваную Кінгу ў пошуках загінуўшага члена рэдакцыі. Зразумела, што хлопцы спраўляліся з усім і нярэдка ўзнікалі цікавыя тэксты іх аўтарства. Аднак яны спрытна выкарыстоўвалі няўвагу дзяўчат. У такія моманты хаваліся па пакоях, каб пагуляць у карты. Гульня была зацятая, але нават пры найбольш эмацыянальных партыях хлопцы стараліся выкарыстоўваць родную мову. Так што пяць дзён былі для дзяўчат вельмі працавітымі і часам нервовымі — такая роля галоўнага рэдактара.

У пятніцу — дзень, калі ўсе газеты мусілі трапіць у рукі „Зоркі” — не было асобы, якая займалася б іншымі справамі, чым праца ў рэдакцыях. У зале, дзе раней дзеці глядзелі матчы чэмпіяната Еўра-2012, цэлы доўгі стол быў абкладзены крэйдамі, каляровымі карткамі, нататнікамі. Навокал яго сядзелі перагружаныя працай маладыя журналісты. Дзяўчаты ўключылі музычную праграму ў тэлевізары, каб час зрабіць прыемным. Не ўсім гэта падабалася. Крыху раздражнены Максім аж падняўся:

— Выключце гэта! — крыкнуў. — Не люблю такіх песень.

На пытанне якія любіць рашуча адказаў:

— Народныя! Асабліва „Там у полі два дубочкі”.

„Купалінка” таксама яму падыходзіла. Канчаткова ўключылі матч паміж Германіяй і Даніяй. Найхутчэй працу над газетай закончыла рэдакцыя Паўліны. Цікавы загаловак „Папля” ўзнік ад першых літар імён журналістаў гэтай газеты: Паўліна, Арыядна, Пятро, Лукаш і Янка. Каля дзясятай гадзіны вечара Кінга і Оля завяршылі працу над сваімі выданнямі „Нашая суполка” ды „Учора, сёння, заўтра”.

Ва ўсіх газетах з’явіліся артыкулы, якія апісвалі тое, што здарылася ў час Сустрэч „Зоркі”. А што здарылася? На пачатак агляд пансіяната Бора-Друй, дзе жылі і працавалі ўдзельнікі журналіцкіх майстар-класаў. Экскурсаводам быў сам гаспадар гэтага месца Барыс Казлоўскі. Прачытаў ён таксама лекцыю пра здаровае харчаванне. Аднак для ўсіх самым цікавым аказаўся крыху магічны спосаб шукання грунтавай вады толькі пры дапамозе галінкі арэшніку. Затым удзельнікаў сустрэч чакаў Аляксандр Бандарук са Старога Ляўкова, які з’яўляецца дырэктарам мясцовай керамічнай фабрыкі. Тут можна было падглядзець цэлы складаны працэс вырабу цэглы. Яшчэ доўга пасля сустрэчы на фабрыцы дзеці недаверліва згадвалі словы дырэктара Бандарука: „З гэтай цэглы пабудаванае амаль цэлае Ляўкова”. На чарговую экскурсію маладдыя журналісты паехалі ў комплекс школ у Нараўцы. Тут тры рэдакцыі спаборнічалі між сабою ў конкурсе ведаў пра Нараўчанскую гміну.

Неадлучнай часткай Сустрэч „Зоркі” з’яўляюцца спатканні з прафесійнымі журналістамі, людзьмі звязанымі з беларускім асяроддзем ды іншымі цікавымі асобамі.

Пра гэта ўсё больш падрабязна даведаецеся са старонак „Нівы”!





# Свята Незалежнасці

Незалежнасць! Слова, якое лашчыць слых прадстаўніка кожнай краіны і кожнай нацыі. Мара кожнага народа — быць вольнымі і незалежнымі ні ад каго. Чалавецтва прайшло вялікую і вельмі трагічную гісторыю войнаў і заваёў. Захопнікі ўсталёўвалі на заваяваных тэрыторыях свае законы. А заваяваныя марылі пра вызваленне і незалежнасць. Вызваліўшыся, вельмі часта пачыналі рабіць з іншымі тое ж, што нядаўна рабілі заваёўнікі з імі. Практычна ўсе народы і нават плямёны на гэтай планеце ў пэўны гістарычны перыяд былі заваяванымі, у іншы — заваёўнікамі. Перакананне, што калі заваёўваеш не ты, дык захопяць цябе, у чалавечай гісторыі было не рэдкасцю. Але чалавецтва ўвесь час шукала выйсця з гэтай патавай сітуацыі. Яно добра разумела, што без гэтага выйсця ланцужок гаспадар-раб-гаспадар і зноў раб... ніколі не скончыцца.

Лепшыя мысліцелі мінулага заўсёды заклікалі людзей да міру. На Зямлі хопіць месца кожнаму, каб збудаваць сваё шчасце, не перашкаджаючы шчасцю іншага. Гэта галоўная ідэя мысліцеляў-міратворцаў як сучаснасці, так і мінулага. А з прыходам хрысціянства быў агучаны і найкарацейшы шлях да здзяйснення гэтай мары — не рабі іншым таго, што не жадаеш, каб зрабілі табе. Зрэшты, гэтая ісціна праўдзівая не толькі ў стасунках паміж дзяржавамі і народамі, але і ў адносінах усіх людзей між сабой.

З масавым прыходам у навейшай гісторыі на палітычную мапу нашай планеты дэмакратыі рэзка змянілася стаўленне і дзяржаўных дзеячаў, і ўсяго грамадства да паняткаў незалежнасці сваёй краіны ды іншых, і пачало набліжацца да высноў лепшых розумаў чалавецтва. Таму яшчэ не было выпадку, каб дэмакратыя распачала вайну супраць дэмакратыі. І не трэба крычаць „эўрыка“, каб зразумець, што найпрасцейшы шлях да міру гэта дэмакратыя. Хоць усталяванне на ўсёй Зямлі дэмакратыі можа не вырашыць усіх праблем чалавецтва, і напэўна не вырашыць, але праблемы вайны і вайсковага захопу здыме. Манархія з манархіяй ваявала, дыктатура з дыктатурай таксама. Дыктатура ваявала таксама і з манархіяй і ўсе яны ваявалі супраць дэмакратычных краін. Дэмакратыі таксама ваявалі супраць іх. Але дэмакратычная краіна не распачынае вайны супраць іншай дэмакратычнай краіны, бо разуменне сваёй незалежнасці ў гэтых сістэмах ужо не атаясамляецца з прыніжэннем ці захопам іншых. Пытанні паміж дэмакратычнымі краінамі вырашаюцца іншым шляхам — перамоўным або эканамічна-ўльтыматыўным, кампрамісным, ці яшчэ якім, але не вайсковым. І гэта чарговы раз даказвае, што каб збудаваць і развіваць дэмакратыю, грамадства канкрэтнай краіны ўжо мусіць быць дастаткова духоўна ўзбагачаным, каб разумець, што іншыя народы маюць таксама права на сваё развіццё і сваю незалежнасць. Таму там і разуменне незалежнасці, і святкаванне яе набывае агульнанацыянальны характар і з'яўляецца найвялікшым дзяржаўным святам.

Беларусь таксама святкуе Дзень незалежнасці — 3 ліпеня. Чаму трэцяга? Чаму не ў дзень прыняцця Дэкларацыі пра суверэнітэт, і не ў Дзень Волі, 25 сакавіка, калі і пачалося новае адраджэнне беларускай дзяржаўнасці? А менавіта трэцяга, у дзень вызвалення Мінска ад немцаў у Другую сусветную вайну. У гэты ж дзень палова беларускага народа яшчэ заставалася пад нямецкай акупацыяй!

Ды вось уся справа ў мышленні. Палова там, палова тут... Няма ў сённяшняй улады на Беларусі разумення маналітнасці і еднасці ўсяго народа. А значыць і разумення Незалежнасці. Значыць, незалежнасць па-ранейшаму застаецца над пагрозай.

Нездарма працягваецца знішчэнне беларускай мовы, замоўчванне слаўтых старонак нашай гісторыі, аднаўленне савецкіх святаў ды савецкага менталітэту, дэкляраванне саюзнай дзяржавы, забарона на публічнае ўжыванне гістарычнай сімволікі... І вайна. Абавязкова вобраз вайны, дзе мы кагосьці перамаглі. Зноў навязваецца мышленне, ад якога народы Еўропы, і наш народ таксама, пачалі пазбаўляцца ажно ў сярэдзіня вякі і дасягнулі піку яшчэ ў мінулым стагоддзі. Пазбаўляцца трэба ад мыслення, што каб быць не захопленымі трэба захопліваць, і перайсці да мыслення каб быць шчаслівымі і не перашкаджаць шчасцю іншых, што ўсім хопіць месца пад сонцам.

Віктар САЗОНАЎ

# Ну і што?



Яшчэ да саракавых гадоў XX стагоддзя на востраве Маўрыкій, распалажаным у тысячах марскіх міль ад сушы і суднаходных шляхоў, раўнавага Натуры і Чалавека стаяла ў ідэальнай раўнавазе. Лёгкай для прыдбання ежы было на востраве ўдосталь — але таксама яе жыхары не аб'ядалі прыроды да голай костачкі. Бралі ад яе столькі, колькі трэба было, каб пражыць чарговы сыты дзень. А паколькі кожны дзень быў так сама сыты як іншыя, ніхто нават не думаў знішчажаць сваіх суседзяў у галодных войнах. Да таго паняцце голаду, так як і працы, было для астраўлян зусім незразумелае. Іх асноўным заняткам былі менавіта яда, страўванне і адганянне маскітаў — носьбітаў смяротнай малярыйнай заразы. А на іншым, таксама закінутым востраве — Пасхі — дзе маскітаў днём з агнём не знайсці, тамашнія туземцы па прычыне адсутнасці лепшага занятку сварыліся між сабою, спачатку вось так сабе, прымяняючы гнеўныя словы, а пасля, на жаль, узяліся за дубіны, коп'і, лукі і стрэлы. Прычынай сварак была цікавая справа: якія чалавечыя вушы прыгажэйшыя — доўгія, расцягнутыя быццам кітайскія шкарпэткі, ці кароткія, зграбныя. Калі адны, што называлі сябе даўгавухімі, гатовы былі ахвяраваць жыццём за свае перакананні, другія, якія лічылі сябе кароткавухімі, гатовыя былі прыняць смерць, чым прызнаць слушнасць сваім сапернікам. Біліся тады між сабою аж да апошняга жывога чалавека, знішчаючы прытым ушчэнт лясы і культурныя землі. Калі ў рэшце рэшт апаматаліся, пабачылі свой востраў цалкам яловым. Канчаткова голад і бязлітасная барацьба за кожную сцябліну ядомай травы зрабілі сваё. На востраве, апрача каменных галоў, якія выглядваюць невядома чаго на далёкім небасхіле, у жывых засталіся толькі рэшткі гордых ваяроў. І так паміраюць цывілізацыі.

На востраве Маўрыкій, як было сказана, жыццё плыло ідылічна. Дзякуючы маскітам, баланс сконаў і шматлікіх нараджэнняў быў акуратна нулявы. На востраве жыло столькі людзей, колькі ён мог пракарміць. Была гэта супольнасць, поўнасцю авалоданая апалогіяй дружбы і ўзаемнай сардэчнасці. Каму трэба было памерці, паміраў без удзелу другога чалавека. Каму трэба было жыць, жыў. І ў канцы таксама ж паміраў. Натуру і Чалавека аб'ядноўвалі дэканструкцыя і канструкцыя — абедзве гэтыя сілы, перапелецeныя між сабою саюзам узаемнай раўнавагі, гарантавалі кожнаму чарговаму пакаленню пачуццё бяспекі і адноснай шчаслівасці. Але да часу.

Амерыканцам, якія захапілі востраў у час Другой сусветнай вайны, вельмі заміналі маскіты. Вырашылі іх поўнасцю ліквідаваць. Для гэтай мэты прымянілі пестыцыд ДДТ. Аднак яго распыльванне і знішчажэнне маскітаў раўназначнае было з выбухам дэмаграфічнай бомбы. Сярод туземцаў раптоўна ўпала смяротнасць, а здольнасць да размнажэння засталася нязменнай. За тры дзесяцігоддзі лік насельніцтва на востраве з некалькіх соцень тысяч вырас на больш за мільён. Трэба помніць, што натуральнае асяроддзе вострава ўжо з XIX стагоддзя паслядоўна пераўтваралася ў плантацыю цукровага трыснягу, каб на пачатку XX стагоддзя пад яе вырошчванне заняць сто працэнтаў яго плошчы. Пры капрызах цэн трысняговага цукру на сусветных біржах і пры мізэрнай прапанове сваіх сельгаспрадуктаў узмацнілася праблема лішку колькасці насельніцтва на Маўрыкіі. Голад і перманентнае недаяданне, абумоўленыя попытам на цукар, ахаплялі перыядычна ад 60 да 90 працэнтаў насельніцтва вострава. Даволі гэта да галодных войнаў, разні і братазабойчых змаганняў. Карыстаюся ў гэтым месцы данымі з 80-х гадоў XX стагоддзя. Сёння сітуацыя на Маўрыкіі напэўна значна палепшылася. Аднак гэты прыклад у макрамаштабе паказвае, што можа стацца ў бліжэйшай будучыні на зямным шары. Бяздумнае распыльванне ДДТ на востраве, хаця і гуманітарна матываванае, даказвае, што Чалавек не ўмее карыстацца ні інструментамі, якія сам стварыў, ні, што яшчэ горш, прадбачваць паслядоўнасці іх прымянення на так вытанчаным арганізме, якім з'яўляецца Натура. Але што там Натура! Чалавек сам для сябе з'яўляецца загадкай. Гляньма на тое, што цяпер дзеецца ў Сірыі, што не так даўно дзеялася ў былой Югаславіі, і што дзеецца ў Беларусі. Ніхто гэтага не ўсхваляў і не ўсхваляе. Толькі што з гэтага вынікае?!

Міраслаў ГРЫКА

Вачыма еўрапейца

# У ролі балельшчыкаў



„Народ ажыццяўляе ўладу праз сваіх прадстаўнікоў або непасрэдна“

— абвяшчае 4 артыкул Канстытуцыі РП. Чарговыя артыкулы асноўнага закону і закон аб самаўрадзе гарантуюць грамадзянам права прымаць удзел ва ўсялякіх пасяджэннях гмінных і павятовых рад ды ваяводскіх сеймікаў. Д-р Джэгаж Макоўскі з Інстытута публічных спраў, спасылаючыся на адзін прысуд Адміністрацыйнага суда ў Лодзі ад 2008 года сцвярджае, што паняцце ўдзелу грамадзян у пасяджэнні рады гміны трэба інтэрпрэтаваць шырока, менавіта не толькі як „прысутнасць“ у час пасяджэння рады. Падкрэсліў ён: „Гэта абазначае, што грамадзяне, жыхары той ці іншай лакальнай супольнасці, хочуць пакарыстацца сваім правам прымаць удзел у пасяджэнні рады, могуць гэтае рабіць і прытым не мусяць яны быць пасіўнымі ўдзельнікамі. Права прымаць удзел у пасяджэннях абазначае менавіта, што могуць яны выступаць — ставіць пытанні, даваць заключэнні і г.д., вядома, пры захаванні прававых нормаў і аўтаноміі дзеяння органа публічнай улады, якім з'яўляецца гмінная, павятовая ці ваяводская рада“. Д-р Макоўскі прыводзіць прыклад адной сельскай гміны, дзе — у адпаведнасці з прынятым статутам рады — адштурхоўваюць жыхароў ад удзелу ў яе працах. Вось — згодна зместу статуту — у час пасяджэння гміннай рады на зале можа быць публіка, але ёй адводзіцца „спецыяльнае для гэтай мэты месца“. Гэта абазначае, што жыхары маюць права на пасіўнае ўдзельніцтва ў пасяджэнні, загадзя вызначыўшы ім ролю „балельшчыкаў“. Адзін з пунктаў статута магчымасць выступіць чыніць залежным ад добрай або злой волі старшыні. І так менавіта на мінулым тыдні сталася ў Беластоку. Гарадскія радныя галасамі найбольшага дэпутацкага клуба Грамадзянскай платформы, пры супраціве апазіцыі (ПіС, СЛД) увялі змены ў гарадскі статут. Праўда, не адведзена жыхарам спецыяльнага месца (і так вядома дзе ім трэба сядзець), але могуць яны баяцца, што стануць выконваць ролю выключна „балельшчыкаў“. Цяпер толькі старшыня Гарадской рады можа даць права выступіць асобе, якая не з'яўляецца гарадскім дэпутатам. Такую прапанову і іншыя змены ў статут прад'явіў сам старшыня рады Уладзімеж Кусак (ГП). Раней прапанаваць жыхарам выступіць маглі таксама старшыні дэпутацкіх клубаў, у тым ліку і апазіцыйных. Старшыня апазіцыйнага клуба ПіС Рафал Рудніцкі пераконваў з трыбуны:

— Гэтыя змены абмяжоўваюць уплыў апазіцыі на тое, што дзеецца ў гэтым самаўрадзе.

У сваю чаргу радны клуба СЛД Януш Кохан дадаў:

— Гэта абмежаванне грамадзянскіх правоў.

Змест абгрунтавання ўвядзення змен у статут аказаўся незвычайна кароткім: „Вышэйпералічаныя змены вынікаюць з закону аб гмінным самаўрадзе (не ўказана, аб якіх пунктах закону гаворка — М. Ц.), шматгадовага вопыту ў вядзенні пасяджэнняў. Падрыхтаваны яны былі з мэтай рацыяналізацыі ходу пасяджэнняў і ўхілення інтэрпрэтацыйных праблем датычных статуту рады“. Пэўна пункт, які датычыць выступленняў пастаронніх асоб у ходзе пасяджэнняў, удасканаліць працу рады і ўжо ніхто звонку не стане непатрэбнай шасцярнёй у машынцы для галасавання найбольшага дэпутацкага клуба. Толькі што асноўнае права грамадзян, якое гарантуе ім адну з магчымасцей непасрэдна ўплываць на ўладу, было моцна абмежаванае. І на канец (без каментарыя) выказванне старшыні дэпутацкага клуба ГП у Гарадской радзе Беластока з пачатку апошняга пасяджэння, пасля таго як апазіцыйныя клубы хацелі ўвесці папраўкі ў павестку дня:

— Клуб ГП будзе выступаць супраць прапановам, прад'яўленым клубамі СЛД і ПіС, бо яны не былі з намі кансультаваныя.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Гісторыя Праваслаўнага прыхода ў Дубічах-Царкоўных

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

У Гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных 17 чэрвеня сабраліся асобы зацікаўленыя гісторыяй Падляшша. Нагодай для сустрэчы была прамоцыя альбомнага выдання „Дубічы Царкоўныя. З гісторыі праваслаўнага прыхода" аўтарства матушкі Евы Аўксеціюк. У ім змястоўна і займальна прадстаўлена гісторыя і сучаснасць парафіі.



Матушку Еву і настаяцеля прыхода, протаіерэя Славаміра Аўксеціюка з выданнем цікавай і вартаснай кніжкі павіншаваў войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі

У кніжцы змешчаны даўнія карты, дакументы і вялікая колькасць здымкаў, на якіх могуць знайсці сябе многія жыхары Дубіцкай гміны. Цвёрдая вокладка і альбомная папера ўсярэдзіне робяць выданне шыкарным. Адначасна яно цікавае па змесце і таму павінна хутка трапіць у рукі жыхароў Дубіцкай зямлі і яе выхадцаў. Спатканне распачалося і закончылася малітвамі на царкоўнаславянскай мове, а большасць сустрэчы, якая з-за дакладаў напамінала навуковую канферэнцыю, прайшла на мове мясцовага насельніцтва, што запрапанаваў сабраным настаяцель прыхода протаіерэй Славамір Аўксеціюк. Апрача знатных гасцей на прамоцыю кніжкі запрошаны былі прадстаўнікі беларускіх масмедыяў, „Нівы" і Радыё Рацыя, якога журналістка Наталля Герасімюк раней вяла майстар-клас для мясцовых вучняў у рамках збірання матэрыялаў для новага выдання.

— Айцец Славамір службу распачынаў на прыходзе ў Рыбалах, пад апекай айца Рыгора Сасны і можа там, пад уздзеяннем айца Рыгора, нарадзілася ў яго і матушкі Евы зацікаўленне мясцовай гісторыяй, — заявіў прысутны на спатканні старшыня Аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах" Дарафей Фіёнік.

Протаіерэя Славаміра Аўксеціюка можна было спаткаць на прамоцыі кніжак айца Рыгора Сасны, а таксама на дакладзе Дарафея Фіёніка, наладжаным апошняй зімой у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы (сабраныя дапытваліся ў мяне, што гэта за свяшчэннік прыбыў на спатканне прысвечанае мясцовай гісторыі). Новая кніжка паўстала ў асноўным на падставе магістарскай дысертацыі матушкі Евы Аўксеціюк на тэму гісторыі Дубіцкага прыхода. Папоўнена яна была новымі цікавымі матэрыяламі і шматлікімі здымкамі.

— Ужо ад нейкага часу мы хацелі пакінуць памятку па нашым пакаленні і выдаць манаграфію Дубіцкага прыхода, які існуе ўжо сотні гадоў. Дзеля гэтага звярнуліся мы да айца Рыгора Сасны, а ён параіў нам падшукаць студэнта, каб той заняўся збіраннем матэрыялаў аб нашай парафіі. Якраз тады матушка Ева вучылася ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі і ёй было дазволена пісаць магістарскую дысертацыю аб нашым прыходзе, — сказаў протаіерэй Славамір Аўксеціюк, які дапамагаў матушцы збіраць матэрыялы для дысертацыі і новага выдання і за якога хадайніцтвам была выдадзена кніжка (выдаўцом з'яўляецца Праваслаўны прыход Апекі Божай Маці ў Дубічах-Царкоўных).

— Мы мелі шчасце, бо пішучы магістарскую дысертацыю „Гісторыя прыхода ў Дубічах Царкоўных" я магла карыстацца гістарычнымі апрацоўкамі айца Рыгора Сасны аб нашай парафіі, змешчанымі ў царкоўным часопісе. Карысталася я таксама матэрыяламі з архіва нашага прыхода і выказваннямі людзей. Цяпер з дапамогай вучняў і настаўнікаў удалося сабраць многа здымкаў, якія публікуем у нашым выданні. Майстар-клас, які вяла Наталля Герасімюк, асабліва важны для маладых людзей, бо мы стараліся прышчапіць ім зацікаўленне мясцовай гісторыяй, — сказала матушка Ева Аўксеціюк. — Хацелі мы як найдакладней прадставіць гісторыю прыхода і таму былі вельмі рады, калі атрымалі копіі метрыкальнай кнігі з 1811-1826 гадоў, часткі даўняй карты Усходняй Прусіі з 1795-1800 гадоў з нашымі вёскамі і копію абавязацельства аб пераходзе з уніяцтва ў праваслаўе, якое падпісаў айцец Антоній Краскоўскі, настаяцель прыхода ў Дубічах у 1838 годзе.

У снежні 2011 года з дакладам аб гісторыі мясцовасцей, што зараз уваходзяць у склад Дубіцкай гміны, выступіў у Грабаўцы гісторык Дарафей Фіёнік, а некалькі гадоў раней даклад пра дзейнасць людзей з Дубіч-Царкоўных і наваколля ў галіне беларускай культуры і палітыкі падрыхтаваў прафесар Алег Латышонак і гэтыя матэрыялы таксама можна было выкарыстаць у кніжцы.

— Мы напісалі праект і ў рамках Праграмы развіцця вясковых тэрыторый у 2007-2013 гадах атрымалі еўрасаюзныя сродкі на збіранне матэрыялаў і выданне кніжкі. Здымкі збіралі мы з дапамогай вучняў і жыхароў нашай гміны. Новае выданне — гэта цудоўная справа, бо з яго можна многа даведацца аб гісторыі Дубіцкай зямлі, — гаварыла дырэктар мясцовай школы Бажэна Маркевіч.

У рэалізацыю выдавецкага праекта ўключыліся таксама Гмінны асяродак культуры і Гмінная бібліятэка. У кніжцы матушка Ева Аўксеціюк расказвае аб прыхадскім жыцці, пачынаючы з часу пабудовы першай царквы, аб царкоўных школах і перш за ўсё аб людзях, якія жылі ў парафіі, святарах, псаломшчыках і іншых асобах, якія працавалі ў карысць прыхода. Многа месца ў выданні адведзена таксама свецкаму жыццю ў паасобных вёсках парафіі. Матушка Ева інфармуе, што першыя пісьмовыя звесткі аб Дубічах і іншых вёсках прыхода паявіліся ў палове XVI стагоддзя. Сярод жыхароў захавалася легенда, што ў мінулым на тэрыторыю цяперашняй вёскі Дубічы-Царкоўныя прыбыло з поўначы племя крывічоў (населяла яно частку тэрыторыі сённяшняй Рэспублікі Беларусь — А. М.). Жыло яно побач дубовага лесу і мяркуецца, што ад слова „дубы" паўстала назва вёскі „Дубічы". Другі член сённяшняй назвы сяла „Царкоўныя" паявілася на картах у пачатку XIX стагоддзя.

— Дакументаванае паўстанне Дубіч гэта 1553 год, а першая царква, збудаваная на тэрыторыі сённяшніх Бахматаў, згарэла ў 1704 годзе. У 1729 годзе была збудавана Пакроўская царква, на месцы сённяшняй царквы, і яна таксама згарэла ў 1941 годзе. У тадышнім пажары згарэла большасць вёскі (уцалела толькі 12 дамоў). Амаль 20 сем'яў пасля пажару цяснілася ў будынку чатырохпакаёвай школы. З ахвярнай дапамогай прыхаджан удалося адбудаваць царкву. Вельмі многа дапамагла тады Еўдакія Дзмітрук з Гарабаўца, якая хадзіла далёка ад дому, збірала воўну і яйкі, якія потым мяняла на будаўнічыя матэрыялы для будовы храма, — расказвала ў час сустрэчы матушка Ева Аўксеціюк. Паведаміла яна, што Дубіцкі прыход моцна быў знішчаны ў XVII стагоддзі, ад шведскага патопу і тадышніх войнаў. З бежанства 1915 года, калі ў глыб Расіі выехала вельмі многа жыхароў Дубіч і іншых прыхадскіх сёлаў, вярнулася толькі частка людзей, прытым у спаленыя дамы і на зруйнаваныя гаспадаркі. Цікавымі з'яўляюцца расказы з міжваеннага, ваеннага і пасляваеннага перыядаў, папоўненыя звесткамі з больш сучаснага жыцця прыхода.

— Я пад вялікім уражаннем ад новага выдання. Ёсць нават прыказка „Хто не ведае гісторыі, той не варты будучыні" і таму кніжка пра Дубіцкі прыход такая важная для мясцовага насельніцтва. Мы павінны трымацца разам і трэба намагацца захаваць сваю мову, каб супрацьстаяць паланізацыі, — гаварыў у час спаткання архімандрыт, доктар Варсанофій (Дарашкевіч), былы настаяцель Сакоўскага мужчынскага манастыра, пра які таксама можна прачытаць у новай кніжцы, бо ў мінулым Дзімітрыеўская царква ў Саках была філіяльным храмам Дубіцкага прыхода. Айцец Варсанофій заявіў таксама, што неўзабаве з'явіцца гістарычная кніжка яго аўтарства.

— Добра было б выдаць кніжкі таксама пра іншыя прыходы ў нашай гміне, перш за ўсё пра Старакарнянскую парафію. Аднак многа сродкаў у нашай гміне ідзе на інвестыцыі і няма грошай, каб заказаць платнае збіранне матэрыялаў аб нашай гісторыі. Іаанна Сапяжынская рыхтуе альбом са здымкамі пра Вітава і думаем, што пакажуцца выданні таксама пра іншыя нашыя сёлы, — сказаў войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі.

Дэкан Кляшчэлеўскай акругі, мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі пахваліў ініцыятыву даследавання гісторыі і новае выданне, якое спадабалася таксама прыхаджанам ужо пасля першага гартання старонак кніжкі.

— Не хапае манаграфій аб нашых прыходах і таму выданне кніжкі аб Дубіцкай парафіі з'яўляецца важнай падзеяй, — заявіла Іаанна Сапяжынская, настаўніца гісторыі ў Комплексе прафесійных школ у Гайнаўцы, ураджэнка Вітава.

18 чэрвеня мела адбыцца пахаванне айца Грыгорыя Асташэўскага, які ў 1986-1992 гадах служыў на прыходзе ў Дубічах-Царкоўных (апошнім часам служыў у Міхалове, як пенсіянер) і таму сустрэча ў Дубічах распачалася з кароткіх малітваў за ўпакой душы святара. Як першая з дакладам „Схіл уніяцтва ў Беластоцкай акрузе ў трыццатых гадах XIX стагоддзя", які тычыўся таксама зямель цяперашняй Дубіцкай гміны, выступіла доктар Ірэна Матус. Пасля кіраўнік музея ў Бельску-Падляшскім Аліна Дэмбоўская расказвала пра абрадавыя ручнікі і вялікі праект збірання, апісвання і каталагізацыі абрадавых ручнікоў, які бельскі музей рэалізуе на тэрыторыі колішняга Бельскага павета (ахопліваў ён цяперашні Гайнаўскі павет і частку сённяшняга Сямятыцкага павета). Сабраныя маглі пaглядзець стэнды са здымкамі разнародных ручнікоў і даведацца многа цікавага пра нашыя прыгожыя ручнікі.

— У мінулым ручнікі вешалі на іконах, крыжах і клалі ў труны, калі суправаджалі памерлых. Я вельмі рада, што людзі і цяпер не саромеюцца і бачаць вартасць нашых ручнікоў і нашай матэрыяльнай культуры, — сказала кіраўнік Аліна Дэмбоўская.

Матушка Ева Аўксеціюк, якая пазнаёміла сабраных з цікавейшымі момантамі з гісторыі прыхода, запрапанавала гмінным уладам, каб у наступным годзе супольна адзначыць 460 гадавіну дзейнасці парафіі ў Дубічах-Царкоўных.

## Страсная ікона Багародзіцы ў Ольштыне

У ольштынскім замку была нядаўна адкрыта выстава „Іконы XVI-XIX стагоддзяў у фондах МузеяВарміі і Мазураў". У фондах музея захоўваюцца іконы адлітыя ў латуні. Яны невялікіх памераў і былі асабліва паважаныя стараверамі. Адной з іх з'яўляецца Страсная ікона Багародзіцы, якая паходзіць з Расіі і была напісана ў канцы XVIII стагоддзя. Гэтая выява ўшаноўваецца таксама ў Каталіцкім касцёле як Божая Маці Няспыннай Дапамогі або Божая Маці Балесная. Ікона, тыпу Адзігітрыя, характэрная прысутнасцю ў верхніх вуглах карціны постацей арханёлаў Гаўрыіла і Міхаіла, трымаючых прылады пакутаў Гасподніх: крыж, гвоздзі, губку і кап'ё. Хрыстос, седзячы на левай руцэ Маці і трымаючы ручкамі вялікі палец Яе правай рукі трывожна глядзіць на арханёлаў у прадчуванні будучых пакут. Багародзіца любоўна пахіляе галаву над Ім. Мяркуецца, што першапачаткова ікона была напісана на грэчаскім востраве Крыт, калі той быў пад венецыянскім панаваннем, і пазней трапіла ў Рым. На захадзе сюжэт распаўсюдзіўся, асабліва ў XIX стагоддзі. У 1867 годзе папа ўрачыста каранаваў абраз. З таго часу дакладныя копіі яго ў арыгінальным маштабе 53x41,5 см з'явіліся ў большасці каталіцкіх касцёлаў. Абраз гэты вельмі паважаецца таксама ў Польшчы; у 1991 годзе папа Ян Павел II паўторна каранаваў яго ва Влацлаўку.

## Дзень нацыянальных меншасцей

Згуртаванне нямецкай меншасці ў Ольштыне ладзіла ў суботу, 2 чэрвеня, дваццаты ўжо Дзень нацыянальных меншасцей. У праграме ўрачыстасцей была палявая імша, даклад пра татарскую меншасць у Польшчы ды мастацкая частка. Ад трох гадоў фэст ставіць сваёй задачай знаёмства з выбранай канкрэтнай меншасцю: у 2009 годзе з украінскай, у 2010 з літоўскай, а ў мінулым — з караімскай. Гэтыя штогадовыя сустрэчы маюць на мэце наладжванне сувязей і супрацоўніцтва паміж усімі меншаснымі групамі ў Польшчы. Сёлета свае мастацкія ўмеласці прэзентавалі ўкраінцы, немцы і літоўцы. Была таксама прэзентацыя традыцыйнай кулінарыі.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

## Экзатычны агародчык

26 чэрвеня 2012 г. функцыянеры Чаромхаўскай заставы Падляшскага аддзялення Памежнай варты выявілі ў лесе непадалёк Вычулак Нурэцкай гміны адзінаццаць кустоў буйных індыйскіх канапель. Міні-агародчык знаходзіўся некалькі дзесяткаў метраў ад дарогі. Расліны выраслі даволі высокія. Не ўдалося выявіць уладальніка палетка. Функцыянеры забяспечылі знаходку. Расследаваннем справы займаецца паліцыя ў Сямятычах. З выяўленых кустоў канапель можна было б вырабіць больш за 240 грамаў сухой масы, вартай каля адзінаццаці тысяч злотых. Кошт аднаго грама наркатычнага сродка ацэньваецца на амаль 45 зл. **(ус)**

# Шудзялаўскае пазнаванне Беларусі

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

**Шудзялава яшчэ ў 2003 годзе падпісала дагавор аб эканамічна-культурна-асветным супрацоўніцтве з Беларуссю, а дакладней з недалёкім Адэльскам. Выбар беларускага партнёра, мабыць, быў невыпадковы. Калісь прадстаўнікі гэтых дзвюх суседніх гмін маліліся ў адным, менавіта адэльскім, касцёле, а на тамашнім могільніку па сёння спачываюць продкі шматлікіх жыхароў Шудзялаўскай гміны.**



Войт Шудзялаўскай гміны **Марыюш Чабан**

У рамках заключанага дагавора вяліся перш за ўсё сяброўскія сустрэчы школьнікаў па абодвух баках мяжы. Хаця дакумент аб супрацоўніцтве страціць юрыдычную сілу ў 2013 годзе, то кантакты спыніліся ўжо шэсць гадоў таму назад. Апошнія змены ў мясцовых уладах прынесліаднаўленне двухбаковых, партнёрскіх кантактаў. У пачатку чэрвеня 2012 года новы старшыня Адэльскага сельскага выканаўчага камітэта Уладзімір Трутнёў паслаў таксама новаму войту Шудзялаўскай гміны Марыюшу Чабану і запрасіў у Адэльск на фэст святога Антонія.

Шудзялава з задавальненнем прыняло беларускае запрашэнне. Разам з войтам у госці паехала трох прадстаўнікоў Гміннай рады. У Адэльску правялі яны два дні, 13-14 чэрвеня. Вярнуўшыся, поўны самых лепшых уражанняў войт Марыюш Чабан прызнаўся нашаму тыднёвіку:

— Гэта была мая першая паездка ў Беларусь і першае замежнае падарожжа на войтаўскай пасадзе. Я вельмі, вельмі захоплены сяброўствам з гэтай краінай. Беларусь, па-мойму, вялікая краіна найцудоўнейшых людзей, мабыць, у цэлым свеце. Шудзялаўцы таксама добрыя, адкрытыя людзі, але не дараўняць ім беларускай душы. Вельмі нам было прыемна там пабываць. Прымалі нас пакаралеўску, момантамі я адчуваў сябе нялоўка, што яны так цешыліся нашым візітам. Што тычыцца эканамічнага супрацоўніцтва, то яшчэ да 2002 года былі планы адкрыцця ў рамках малога памежнага руху пагранперахода Адэльск — Войнаўцы, якія знаходзяцца на тэрыторыі Шудзялаўскай гміны. Гэта напэўна паспрыяла б буйному гаспадарчаму абмену паміж нашымі краінамі. Сучасная мяжа вельмі перашкаджае ўзаемным, не толькі гаспадарчым, але і звычайным людскім кантактам. Нашы добразычлівыя людзі гэтага не заслугоўваюць. Мушу сказаць, што на польска-беларускім гранічным пераходзе я адчуваў сябе быццам у час падарожжа ў Злучаныя Штаты Амерыкі, дзякуючы, між іншым, абавязковым візавым працэдурам, чэргам і строгасці памежнага кантролю. Што ж, застаецца толькі чакаць лепшых часоў. Не магу наракаць на працу Генконсульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку, куды я таксама, дзякуючы згаданай паездцы, папаў упершыню. Вельмі зычлівa мяне там абслужылі, дапамаглі аформіць усе неабходныя дакументы.Там я пазнаёміўся з консул Таццянай Нікалаёнак.

Памежная лакалізацыя Шудзялаўскай гміны спрыяе карыстанню з еўрасаюзных сродкаў, прызначаных на трансгранічныя ініцыятывы, звязаныя з павышэннем узроўню навакольнай інфраструктуры. Пакуль заяў мы яшчэ не падавалі, патрабуем дваццаць тысяч злотых на пераклад усіх неабходных дакументаў на англійскую мову. Ідзе нам пра пабудову павятовай дарогі Шудзялава — Навінка — Баратыншчына — Казловы Луг. Калі не паспеем у гэтым годзе, то напэўна будзем старацца зрабіць гэта ў наступным.

Карыстацца трансгранічнымі фінансавымі рэсурсамі войт Марыюш Чабан захвоціў і адэльскага старшыню ў час апошняй сустрэчы. Там спатрэбяцца яны, між іншым, на арганізацыю зоны адпачынку ў цэнтры гарадка.

Марыюш Чабан хоча вярнуць традыцыю сустрэч вучняў школ у Адэльску і Шудзялаве. Кажа:

— Гэта напэўна дапаможа ў пераадольванні стэрэатыпаў і прадузятасцей. Моладзь павінна на сваім вопыце зразумець, што медыі не заўсёды шчыра і аб'ектыўна гавораць пра Беларусь. Па-мойму існуе вялікая розніца паміж медыйнай выявай Беларусі, а ўражаннямі ад асабістага кантакту з суседняй краінай. Прынамсі так было ў маім выпадку. Калі ідзе пра польскую меншасць у Беларусі, якая пражывае, між іншым, на Адэльшчыне, то не заўважыў я там ніякіх рэпрэсій ці праследу. Наадварот, у мяне склалася ўражанне, што ім там вельмі спакойна і гарманічна жывецца. Тычыцца гэта таксама эканамічнай сітуацыі ў рэгіёне. Тое, што я там пабачыў, вельмі пазітыўна мяне ўразіла. У Шудзялаве таксама калісь было дзяржаўнае сельскае гаспадарства, якое многім запэўнівала перш за ўсё працоўныя месцы і жыллё. Цяпер апынулася яно ў прыватных руках і намнога менш людзей у ім працуе. Хатаў таксама ніхто не раздае. У адэльскім калгасе працуе 270 чалавек. Можа яны не столькі грошай зарабляюць як у прыватнай карпарацыі, але галоўнае, што ў іх ёсць сталы, рэгулярны заробак. Мне пашанцавала наведаць гэтае прадпрыемства. Уразіла вышэйшая культура беларускай гаспадарнасці. Я пабачыў, у якой пашане знаходзяцца сельскагаспадарчыя машыны, якія ў іх паркоўкі, склады, халадзільныя камеры для фруктаў. Я быў проста захоплены. У нас такога не сустрэнеш, ну... можа недзе далей, на захадзе Польшчы, але напэўна не на ўсходніх яе акраінах. Першы раз у жыцці я бачыў такія вялікія палі. Ад бязмежнай прасторы проста балела галава. Кукуруза ў адным куску без канца і краю...

Была таксама нагода пазнаёміцца з карэннымі жыхарамі Адэльска. Першым чалавекам, якога мы там спаткалі, быў прадстаўнік польскай меншасці — Багдан Пясэцкі і ягоны васьмідзесяцігадовы бацька. Яны вельмі ангажаваныя ў развіццё культурнага жыцця свайго сельсавета, падтрымліваюць традыцыі сваіх продкаў. Такога польскага патрыятызму надарэмна ў самой Польшчы шукаць. Спадар Пясэцкі аказаўся неацэнным перакладчыкам, які нам вельмі дапамог у кантактах з адэльчанамі. Я асабіста хаця разумею, то не ўмею гаварыць па-руску ці пабеларуску. Разам са спадаром Пясэцкім падаліся мы ў мясцовы касцёл на святочную багаслужбу. Мушу сказаць, што зноў я вельмі здзівіўся, пабачыўшы столькі народу ў касцёле, прытым у будны дзень. Мабыць, калі б гэта былі выхадныя, то яшчэ больш народу сабралася б на касцельнай пляцоўцы. Адэльскі сельсавет налічвае тысячу восемсот жыхароў, а наша гміна больш за тры тысячы. Аднак людзей у касцёле было ў пяць разоў больш, чым на „одпусце" ў каталіцкім Шудзялаве. Святочнае набажэнства служылася на польскай мове. Нашу дэлегацыю пасадзілі на ганаровай першай лаўцы. Ксёндз — малады, энергічны мясцовы паляк — пачаставаў нас святочным абедам, пасля якога падаліся мы на свецкае народнае гулянне. Адбывалася яно ў беларускім духу з польскімі акцэнтамі. Усё пачалося з прыезду пад галоўны амфітэатр на сапраўднай фурманцы жанчын у беларускай вопратцы ў стылі нашых „Ко-ко, ко-ко". На сцэне, апрача калектываў спевакоў і танцораў, прэзентаваліся і рукадзельнікі. Мне запомніўся музыкант, які сам рабіў усялякага тыпу дудкі і флейты. Ён іграў на самаробнай дудзе, з якой я таксама сустрэўся ўпершыню. Не забуду і арыгінальнай латарэі, арганізаванай Адэльскім сельвыканкамам, у якой можна было выйграць, між іншым, хатнюю жывіну. Слава Богу, мне трапілася прылада — каса. З баранам напэўна было б цяжка перасячы граніцу. Цэлае мерапрыемства здалося мне вельмі мілым і сімпатычным. Мы таксама ўзялі з сабой падаркі гаспадарам у выглядзе кошыкаў з нашай шудзялаўскай ядой. Яшчэ я пазнаёміўся там са старшынёй з Індуры — вельмі сімпатычным чалавекам, які таксама прапанаваў наладзіць супрацоўніцтва. Са свайго боку я параіў яму скантактавацца з гмінай Завады Беластоцкага павета, якая не мае яшчэ кантактаў з Беларуссю. Добра было б, каб і іншыя гнімы пазнаёміліся з нашымі ўсходнімі суседзямі. Усё ж такі мы вельмі падобныя на беларусаў, бліжэй нам да іх чым, напрыклад, да немцаў. Спадзяюся, што шудзялаўска-адэльскія кантакты будуць бесперапынна расці і развівацца. Нашых беларускіх сяброў пастараемся дастойна прыняць у верасні гэтага года на шудзялаўскім свяце бульбы.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Электралямпа ваяводы

**Трэці ўжо раз быў вырашаны конкурс „Грамадская ініцыятыва года”, у якім прымаюць удзел няўрадавыя арганізацыі з Падляшскага ваяводства, што актыўна дзейнічаюць у мясцовым асяроддзі. Спецыяльны капітул з грамадскіх дзеячаў прызначыў узнагароды ў чатырох намінацыях за ініцыятывы: адукацыйныя і спартыўныя, у карысць культуры і нацыянальнай спадчыны, у галіне грамадскай палітыкі ды ў карысць аховы асяроддзя. У ліку ўзнагароджаных апынуліся Звяз беларускай моладзі ды Мясцовы фонд у карысць грамадскага развіцця Бельскай гміны.**



Узнагароду з рук ваяводы Мацея Жыўны прыняў Ігар Лукашук (справа)

У ходзе парадной урачыстасці ў фае Драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку патрон конкурсу, падляшскі ваявода Мацей Жыўна звяртаўся да вылучаных і гасцей:

— Грамадская ініцыятыва года гэта задума, якая выйшла па ініцыятыве няўрадавых арганізацый. Падляшскія няўрадавыя арганізацыі напоўнены вялікімі магчымасцямі, трэба іх паказваць. Гэты конкурс мае падтрымліваць вашы прамацыйныя захады. Сёлета былі заяўлены трыццаць новых мясцовых ініцыятыў. Гэта не конкурс на найлепшую няўрадавую арганізацыю, але на найлепшую ініцыятыву, праяўленую ў сваіх грамадскасцях.

Ваявода прыгадаў таксама лагатып Грамадскай ініцыятывы года, якім з'яўляецца запаленая электралямпа:

— У нашым жаргоне з няўрадавымі арганізацыямі гэтую ўзнагароду называем „электралямпай ваяводы”. Гэта сімвал энергіі і святла, якія дорыце сваім мясцовым грамадскасцям.

Першая ўзнагарода ў катэгорыі „Ініцыятыва ў карысць культуры і нацыянальнай спадчыны” трапіла Звязу беларускай моладзі за „стварэнне, адкрыццё і дзейнасць Цэнтра адукацыі і прамоцыі беларускай культуры „Шчыты” ў Шчытах-Дзенцялове” (Арлянская гміна). Да конкурсу гэтую ініцыятыву Звязу заявіла Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства. Узнагароду прыняў Ігар Лукашук, які сказаў журналістам:

— Гэтая ўзнагарода вельмі радуе, бо з'яўляецца падвядзеннем шматгадовай працы, даволі цяжкай, бо рабілі мы гэту справу ўпершыню, як аматары. І ўдалося. У гэтым конкурсе кожны, хто прымае ў ім удзел, з'яўляецца пераможцам, бо кожны нешта зрэалізаваў для справы сваёй грамадскасці. Цяпер наступае найбольш складаны момант, бо трэба запускаць у жыццё наш цэнтр. Маем вялікія планы і нават калі ўдасца зрэалізаваць толькі частку гэтых задум, то будзе гэта многа. Апрача сустрэч ці канцэртаў, якія ладзім, хочам пачаць турыстычную дзейнасць, але ў галіне культуры. Гэтым чынам хочам прамаваць багацце нашых Бельскай і Гайнаўскай зямель не толькі ў абсягу нашага рэгіёна, але і ў цэлай Польшчы. Далей этнограф Аліна Дэмбоўская, загадчык Музея ў Бельску-Падляшскім, са згуртавання Мясцовы фонд у карысць грамадскага развіцця, прыняла вылучэнне за „ахову абрадавага ручніка на абшары Бельскай і Гайнаўскай гмін” (на конкурс свой праект заявіла само згуртаванне), таксама ў катэгорыі „Ініцыятыва ў карысць культуры і нацыянальнай спадчыны”:

— Гэта вельмі для нас важнае вылучэнне, таму што вонкавае асяроддзе наш праект заўважыла. Гэтыя звычайныя ручнікі, якія прысутныя ў хатах усяго Падляшша, былі заўважаны і гэта дае штуршок для далейшай працы, каб пра іх клапаціцца, весці ўлік, папулярызаваць. Таму мы зладзілі прыгожую планшэтную выставу, якая вандруе па Падляшшы. Цяпер яна паказваецца ў Дубічах-Царкоўных і далей павандруе па свеце.

У гэтай катэгорыі капітул прызначыў таксама галоўную ўзнагароду ў субкатэгорыі „Ініцыятывы міжнароднага абсягу”. Атрымаў яе сейненскі фонд Пагранічча за адкрыццё Міжнароднага цэнтра дыялогу ў Краснагрудзе, пра што мы абшырна пісалі ў мінулым годзе. У ліку гасцей урачыстасці з'явіліся асобы, якіх няўрадавыя арганізацыі не прымалі ўдзелу ў сёлетнім выпуску конкурсу. Адной з іх была Валянціна Цімафеюк, настаўніца Пачатковай школы ў Нарве, з арганізацыі Мясцовая група дзеяння „Белавежская пушча”: — Я ўпершыню на гэтай урачыстасці, а тут столькі выдатных ініцыятыў. Нарваўская гміна вельмі многа скарыстала з дзейнасці МГД „Белавежская пушча”. Удалося нам правесці рамонты вясковых святліц у Ласінцы, Трасцянцы і Тыневічах. Цяпер збіраем грошы на чарговыя задумы.

Эва ВАШЧЫНСКАЯ

# Свята бацькоў у Белавежы

Паўсюдна больш урачыста святкуецца Дзень маці чым Дзень бацькі. Менавіта між іншым таму ў белавежскай школе 22 чэрвеня з нагоды свята ўсіх татаў арганізавалася ўрачыстае мерапрыемства для ўсіх бацькоў. Атмасфера была незвычайная. Калі таты ды мамы пачалі збірацца каля 16 гадзіны ў галоўным холе школьна-дашкольнага комплексу, на двары стала цёмна, бо пачыналася бура ды ішоў лівень. Аднак усярэдзіне было прытульна, пахла язмінам, які ўпрыгожваў падаконнікі, а свечы рассвятлялі цемру, якая ўлівалася праз вокны.


Фота Андрэя Яганава

Выступілі вучні пятага і шостага класаў пачатковай школы ды гімназісты. Аднак школьныя муры наведалі і малодшыя школьнікі, а нават дашкольнікі. А галоўнымі арганізатарамі гэтай „мітусні” былі вучні першага класа гімназіі разам са сваёй выхавальніцай Іааннай Яганаў. На пачатку прэзентаваліся танцавальныя здольнасці школьнікаў, якія паказалі харэаграфічную пастаноўку пад кірункам вучаніцы пятага класа Малгажаты Прытульчык. Далей пайшлі кароткія жартаўлівыя сцэнкі з сямейнага жыцця, якія прадставілі гімназісты. Не забракавала і вельмі актуальнага матыву чэмпіянату па футболе Еўра-2012, якім жыве апошнім часам амаль усё грамадства. Пазней прагучалі вершы пра сям'ю, пра тату ды пра маму, а таксама прыгожыя песні, у тым ліку „Песня для Гэленкі” Пётра Рубіка, „Богемская рапсодыя” гурту „Queen” ды „Сям'я” з рэпертуару папулярнай свайго часу тэлепраграмы Кабарэ старэйшых джэнтльменаў. Іхняя творчасць сёння ўзбуджае многа сентыментальных пачуццяў. Далей кароткую праграму і свае навыкі паказала моладзь, якая ў гэтым годзе пачала вывучаць беларускую мову пад кіраўніцтвам сціплай аўтаркі гэтага тэксту. Гэтую частку вялі вучаніцы другога класа гімназіі, якія захапілі ўменнем чытаць па-беларуску. Бацькі пачулі спецыяльныя вершы для бацькоў ды цёплыя словы пра родную хату. Госці паглядзелі ды паслухалі „Калыханку” („Ціхі дзень, цёплы дзень”), якая некаторым навеяла прыемныя ўспаміны з дзяцінства, цёплую і ўтульную песню ў выкананні Лявона Вольскага „Простыя словы”, якая была вядучым матывам беларускамоўнага выступлення. Мультымедыйная прэзентацыя прыблізіла прыказкі пра бацькоў і сям'ю.

Напрыканцы ўрачыстасці малую лекцыю прачытала школьная псіхолаг Аляксандра Мондрая-Хурская. Расказала яна пра ролю бацькі ў сям'і, указала на розніцы паміж бацькам і маці. Была магчымасць праверыць, ці маем добры падыход да дзяцей, ці выконваем адпаведную ролю ў сваёй сям'і. Прэзентаваліся таксама фрагменты кніжкі папулярнай Супер-Няні „І ты можаш стаць супер-татам”.

Самае салодкае засталося на канец мерапрыемства. Ласункі, кава і гарбата, падрыхтаваныя настаўніцамі ды вучнямі і іх мамамі, чакалі ўсіх стомленых пахмурным, дажджлівым днём. У незвычайнай, менш афіцыйнай атмасферы, вяліся гутаркі настаўнікаў з бацькамі вучняў ці вучняў з настаўнікамі. Некаторыя выказалі сваё задавальненне, што беларуская мова знаходзіць належнае месца ў праграме навучання белавежскай школы. Добра было б, каб больш вучняў такой магчымасцю пакарысталася.

Свята бацькоў было прыемнай сустрэчай на заканчэнне навучальнага года, які падсумаваў ролю сям'і ў працэсе вучобы, падкрэсліў добрыя сувязі паміж бацькамі і настаўнікамі ды прыблізіў настаўнікаў да бацькоў і вучняў. Вядома, што без супрацоўніцтва паміж бацькамі і школай цяжка выхаваць добрых, мудрых і спелых людзей.

# Астравок беларушчыны ў Пішчацы


*Настаўніца Ізабела Паляк-Скамін*

Пішчац — малаўнічая гмінная мясцовасць у дваццаці пяці кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Белай-Падляшскай. Здаецца, нічым асаблівым не вылучаецца — гмінная ўстанова, касцёл, магазіны, спортпляцоўка «орлік», школа. І вось, гэтае апошняе — Публічная гімназія № 1 прыцягвае нашую ўвагу менавіта таму, што тут дзеці вывучаюць беларускую мову. Усё пачалося нейкія два гады таму назад, дзякуючы ініцыятыве настаўніцы рускай мовы (у тым ліку і беларускай) Ізабелы Паляк-Скамін.

Гэта яна ў рамках кружка беларускай мовы задумала пазнаёміць сваіх навучэнцаў з беларускай мовай, культурай, традыцыямі, звычаямі і абрадамі. Хутка знайшліся ахвотныя ў колькасці больш чым дзесяці вучняў. Дзяўчаты і хлопцы з энтузіязмам вышуквалі інфармацыю пра Беларусь у прэсе і інтэрнэце, разглядаліся за беларускімі народнымі вырабамі, а ў кастрычніку мінулага года разам са сваёй настаўніцай вырашылі наведаць Гайнаўскі белліцэй. Ад візіту ў Комплексе школ з ДНБМ асталіся ў іх самыя лепшыя ўражанні. Абодва бакі вырашылі супрацоўнічаць.

28 чэрвеня г.г. пішчацкія гімназісты наладзілі ўрачыстасць, прымеркаваную да 130-й гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы. Апрача іх добрых знаёмых з Гайнаўкі (вучняў і настаўнікаў), у мерапрыемстве ўдзельнічалі м.інш.беларускі консул з Белай-Падляшскай ды гмінныя ўлады Пішчаца. Выступоўцы прадставілі абшырныя звесткі з жыцця і творчасці беларускага песняра, прадэкламавалі вершы і праспявалі песні.

Спадарыня Ізабела з пэўным жалем сцвердзіла, што гэта ўжо трэцякласнікі, якія неўзабаве пакінуць школу, але хуценька з радасцю дабавіла, што ёсць ужо ў яе наступнікі. Настаўніца атрымлівае падтрымку ад дырэкцыі школы, спрыяюць ёй бацькі і асяроддзе. Зразумела, ёсць і цяжкасці, перш за ўсё — недахоп дыдактычных дапаможнікаў. Але трэба спадзявацца, што гэта нейк вырашыцца, таксама з дапамогай беларусаў Беласточчыны, бо ... «добра быць у дарозе, якую ты сам выбіраеш» (Якуб Колас).

**Ян КАРЧЭЎСКІ**

# СПАЧУВАННІ

Спадарству **Жэні і Антону Міраковічам**

слова спачування
з прычыны напаткаўшага
іх вялікага гора
смерці сына
**РЫГОРА**

выказваюць сябры,
Беларускае гістарычнае таварыства, Беларускі саюз у Польшчы, Тыднёвік „Ніва”



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Купалле і Еўра-2012



Фота Ганны Кандрацюк

Святкаванне Купалля ў Нараўцы прымеркаванае да 7 ліпеня. Гэты абрад мае больш за тысячу гадоў. У купальскую ноч хлопцы скачуць праз вогнішча, дзяўчаты спляtaюць вянкі. Яны таксама пякуць пірожнае і даюць яго сабаку. Дзяўчына, якой пірожнае з'есць з самага пачатку сабака, першая выйдзе замуж. Традыцыяй было кідаць за сябе абутак. Важны быў кірунак, у які адвернецца насок чаравіка, бо адтуль прыйдзе будучы муж.

Старажытныя купальскія варажбы славян скарыстоўваюць у тэлеперадачах пра Еўра-2012. Каб даведацца, хто пераможа ў матчы Польшча — Чэхія, прывялі сабаку і глядзелі, якую яду ён найперш пачне есці. Гэтая варажба не была справядлівай, бо „каманду Польшчы" значыла каўбаска, а „каманду Чэхіі" — агурочак. Несправядлівая варажба прынесла адваротны вынік. Хоць сабака пачаў есці каўбасу, то і так перамагла Чэхія.

У гэтым годзе Купалле ў Нараўцы адсвяткуюць 14 ліпеня, ужо пасля Пятровага посту!

**Арыядна Бакер** („Папля" — V клас ПШ імя св. КіМ у Беластоку), дапаўненне **Ганны Кандрацюк**

## Давайце ўсе ратаваць прыроду!



Фота Адама Паўлоўскага

На жаль, многія людзі не шануюць пушчы. Вялікай праблемай з'яўляецца смецце ў лесе. Нават у глыбі лесу можам наткнуцца на кучы смецця.

Людзі даводзяць да таго, што гінуць звяры, дрэвы і расліны. Не раз, ідучы праз лес, яны выкідаюць фольгавыя кулькі, пластмасавыя прадметы, шкло. На мой погляд, трэба стварыць вакол пушчы больш месца, дзе бяспечна будуць перарабляць смецце. Браканьеры павінны атрымліваць большыя кары за забіванне звяроў. Звярам і птушкам, якім пагражае знікненне, трэба ствараць спецыяльныя ахоўныя зоны. Прашу дзяцей і дарослых — не вывозьце смецця ў лес! Дзеці, вучыце сваіх бацькоў і дзядуляў, каб не смяцілі і не таптaлі ў лесе. Дарослыя, вучыце сваіх дзяцей пашаны для прыроды!

У прыродзе ўсё павязанае з сабой. Напрыклад, калі праз Белавежскую пушчу праплывае забруджаная рэчка, будуць хварэць звяры і птушкі. Таксама пасохнуць расліны і не будуць захапляць нас сваёй цудоўнай, сакавітай зеленню.

Дарослыя і дзеці, памятайце пра гэта!

**Крыстыян Паскробка** (рэдакцыя газеты ***„Учора, сёння, заўтра"***, *IV клас Прадшкольна-Школьнага комплексу ў Нарве*)

## Вершы Віктара Шведа

### Выпрабаванне

Янку запрашае
Яго сябра Якаў:
— Прыйдзі да нас, маем
Новага сабаку.

— А ці ён кусае,
Ці злосным ён зверам?
— Гэтага не знаем
І хочам праверыць.

### Апраўдаўся

Майстар на пабудове
Надта лае Антося:
— Чаму ты па адное
Дошцы заўсёды носіш?

— Бачу, лянівы трошкі
Мой калега Валодзя.
Носіць ён па дзве дошкі
Каб два разы не праходзіць.

## Крыжаванка




1. Ён можа быць вышываны, можна ім выціраць рукі.
2. Прылада для ручнога пілавання дроў.
3. У ім мелем муку.
4. У ім возім розныя рэчы.
5. Прылада для касьбы травы.
6. Сядзім на ім.
7. У вучняў яны ў ліпені і жніўні.

*Рэдакцыя „Паплі", апрацаваў Пятро Свідэрскі, IV кл. КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім*

# Мне дапамагла беларуская мова

*Рэдакцыя газеты „Папля” — Паўліна Вауранюк, Арыядна Бакер, Лукаш Марчук, Янка Конюх, Пятро Свідэрскі — падрыхтавалі і правялі інтэрв'ю з **Кацярынай Бяляўскай**, археолагам родам з Нараўкі.*


Фота Ганны Кандрацюк

*— Адкуль у Вас зацікаўленне археалогіяй?*

**Кацярына Бяляўская:** — Калі я была ў вашым узросце, зрабіла са старой сумкі пакет, у якім трымала лупу, алавак, картачкі, на якіх былі розныя малюнкі. Мяне цікавіла ўсё, што ляжала на зямлі. Многія, калі глядзяць на зямлю, бачаць толькі пясок, а я ў пяску бачыла малыя ракавіны. Калі я прынесла іх дахаты, стрэйшы брат сказаў: „Тут, дзе мы жывем, даўно-даўно было мора”. Гэта захапіла мяне. Я пачала свае доследы.

*П: — Калі Вы пачалі займацца археалогіяй?*

**КБ:** — Прадказанні, як я вам сказала, пачаліся ў дзяцінстве, аднак сапраўдная любоў да археалогіі пачалася ў ліцэі.

*П: — Ці былі ў Вас ужо знаходкі далёкай мінуўшчыны?*

**КБ:** — У час вучобы ва ўніверсітэце, калі ў нас былі раскопкі, я знайшла гаршчок. Гэта была цэнная знаходка, паколькі старажытную кераміку звычайна знаходзім у частках.

*П: — Якую трэба мець адукацыю, каб быць археолагам?*

**КБ:** — Я закончыла тры вышэйшыя ўстановы, у тым ліку археалогію ў Варшаўскім універсітэце. Напачатак трэба пайсці ў добры ліцэй, напрыклад, у Гайнаўскі белліцэй. Трэба перфект ведаць англійскую мову. У цане археолагі, якія ведаюць мовы народаў басейна Міжземнага мора або арабскую мову. Мне дапамагла беларуская мова. Мае прафесары падказалі пісаць дысертацю па беларускай археалогіі. У гэтам выдатна дапамаглі мне беларускія археолагі Эдвард Зайкоўскі і Генадзь Семянчук.

*П: — Ці проста быць археолагам?*

**КБ:** — Трэба добра ведаць гісторыю не толькі Еўропы, але і цэлага свету. Нас, прыкладова, могуць накіраваць у Мексіку або Кітай. Трэба таксама мець моцную фізічную форму, каб вытрымаць на раскопках, якія цягнуцца месяц або год.

*П: — А ці Вы прымалі ўдзел у раскопках на тэрыторыі іншых краін?*

**КБ:** — На жаль, не. У археалогіі ёсць пэўныя прынцыпы. Каб паехаць даследаваць за мяжу, трэба год працаваць на раскопках у Польшчы.

*П: — Ці праца археолагаў засяроджана на калектыўным ці індывідуальным дзеянні?*

**КБ:** — Звычайна гэта праца ў групе, таму што яна цяжкая і марудная. Ну, здараюцца археолагі, якія хочуць самастойна рабіць раскопкі, але іх няшмат. Я ўвогуле здзіўлена, што вы так застаўляеце мяне гаварыць пра археалогію. Тут вам прызнаюся ў нечым. Ад пэўнага часу я сама даследую месцы ў нашай гміне. Думаю, што гэта будзе важнае адкрыццё. Але пра гэта пакуль яшчэ не хачу гаварыць!

*П: — Цікава! Скажыце тады, што лічыце сваёй найбольшай знаходкай у апошні час?*

**КБ:** — Апошнім часам я знайшла ў Белавежскай пушчы нож бронзавага веку.

*П: — Сёння мы з захапленнем слухалі Вашу прэзентацыю пра Нараўку, бачаную вачыма яўрэйскай дыяспары ў Амерыцы і Ізраілі. Важнае месца ў Вашых доследах займае гісторыя нараўчанскіх яўрэяў. Скажыце, што Вас найбольш цікавіць у рэлігіі яўрэяў?*

**КБ:** — Рэлігія яўрэяў і хрысціян выводзіцца з аднаго кораня. Мы павінны ведаць адкуль узялося хрысціянства, наколькі нашы рэлігіі падобныя.

*П: — У Нараўцы няма ўжо яўрэяў. Чаму нам трэба пра іх памятаць?*

**КБ:** - Яны спрычыніліся да эканамічнага развіцця Нараўкі і дзякуючы гэтаму мы жывем лягчэй. Трэба памятаць таксама, што беларусы, як і яўрэі, таксама нацыянальная меншасць.

*П: — Дзякуем за размову!*

**КБ:** — Я таксама дзякую і хачу сказаць, што сённяшняе выступленне я хацела б прысвяціць вашаму рэдакцыйнаму сябру Лукашу Марчуку з Нараўкі, якога ведаю даўно-даўно да Сустрэч „Зоркі”.

# Музыка з кайфам

## Бася, а насупраць — Вася

А паміж імі Наста, Сіндры, Дэйвід і іншыя. Вялікімі крокамі набліжаецца другая частка беластоцкага фестывалю „У палове дарогі”. Галоўным музычным жанрам канцэртаў будзе фольк, але колькі відаў яго пачуем — цяжка пералічыць.

З нашага пункту гледжання важнае, што знойку паявяцца на ім беларускія музыкі. У акустычным фармаце зайграе „Re1ikt”. Нібыта гэта не такая зноў неспадзяванка, бо гурт іграе на Падляшшы не першы раз, але ўпершыню выступіць з новым вакалістам. І гэта можа быць прываблівым, бо голас Сяргея Долгушава скрывае ў сабе загадку. Ён прафейны спявак і з гэтага можа ўзнікнуць нешта цікавае. Іншым беларускім выканаўцам будзе „FolkRoll”. Цікава, што гурт поўнасцю рэпетуе сапраўды няшмат (зусім як незвычайная, легендарная вугорская фольк-група „Мітсура”), бо лідарка гурту штодзень жыве і працуе ў Варшаве. Таленавітая Наста Някрасава апошнім часам больш вядомая з выступаў з польскімі музыкамі ў рамках праекта „R.U.T.A.”, з якімі, між іншым, спявала год таму на „Басовішчы”. На гэты раз запрэзентуецца са сваім уласным гуртом „FolkRoll”. Этнаджаз, якім займаюцца, вельмі блізкі беларускай народнай культуры, вельмі крапальны.







Згаданыя два гурты толькі пачнуць фестывальныя канцэрты. За імі разгортвацца будзе нашмат шырэйшая гісторыя, якую сустварацы будуць музыкі з Ісландыі, Канады, ЗША, а таксама польска-ўкраінскі гурт „Гайдамакі”, які неаднойчы ўжо паказаў, што абазначае украінская энергетычнасць. А смаку ўсяму дадасць расейскі кантэстатар Вася Абломаў з сябрамі, якія не пытаецца, ці выпадае сказаць, толькі проста гавораць.

Чаму Вася сустракаецца з Басяй? Бо будуць і польскія выканаўцы. Малады гурт „Хлопцы контра Бася” напэўна пакажа як стаць зоркай тэлебачання і як захаваць сваю мастацкую незалежнасць! Фестываль адбудзецца 29.06-1.07 у Беластоку. Ягоны сайт: **www.halfwayfestival.com**

**i_basovka@o2.pl**

## Польска-беларуская крыжаванка № 27 - 28

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 23:

Факт, атака, тры, ара, бант, салавей, раса, ял, князь, набат, спец, воз, каса, карысць, вада. Фота, Ян, авар, краса, бор, расказы, талент, ар, ты вяз, Бельск, край, пава, лес, сталіца.

Узнагароды, CD з дзіцячай беларускай музыкай „Сінязорка”, выйгралі Наталля Васько, Карнэлія Каравай з Нараўкі, Марцін Аўярчук з Арэшкава. Віншуем! Узнагароды падарыла Аб'яднанне бацькоў у карысць навучання беларускай мове АБ-БА.

# ГАРАСКОП

**Казярог ( 23.12. – 20.01.):** Не шукай шчасця, бо яно само цябе знойдзе. У лепені выйграеш мільён еўра ў латарэі.

**Вадалей (21.01. – 19.02.):** У наступным маі будзе табе як у раі. У школе атрымаеш добрыя ацэнкі. Усе будуць табой захапляцца, нават твой найбольшы вораг.

**Рыбы (20.02. -21.03.):** У летні сезон не хадзі ў лес, цябе пакусаюць звяры і мошка. Заглядай на беларускія сайты, там знойдзеш *разрыўку*.

**Баран (22.03. – 20.04.):** Не хадзі з галавой „пад руку”. Напамінаем, ты вінаваты найлепшаму сябру грошы.

**Бык (21.04. – 21.05.):** Твой найлепшы сябра падчэпіць тваю сімпатыю, не астаўляй ключоў ад хаты ў суседзяў. Пачысці свае чаравікі.

**Блізняты (22.05. – 22.06.):** Неўзабаве на тваю нагу ўпадзе распалены прас. Прачытай „Ніву” ад дошкі да дошкі, пасля ўсё загоіцца!

**Рак (23.06. – 23.07.):** На рагу чакае тваё каханне. Страціш галаву, але не хвалюйся, сустрэнеш добрую і мілую сваю „палавінку”.

**Леў ( 24.07. – 23.08.):** Кожны дзень будзеш баляваць і гуляць на імпрэзах. Асцярожна! У час адной можаш звіхнуць ножку. Сцеражыся жанчыны з гарбатым носам.

**Дзева (24.08. – 23.09.):** Праца, праца і яшчэ раз праца. Памятай: ад цяжкай работы здох ужо не адзін конь. Прагуляйся па лесе.

**Шалі (24.09. – 23.10.):** Не саджай на задняе сядзёлка тоўстых сяброў і сябровак, бо прадзіравіш шыну ў сваім матацыкле.

**Скарпіён (24.10. – 22.11.):** У месяцы ліпені цябе будзе праследаваць ліха, згарыць твой камп'ютар і закахаешся ў прыдуманы ідэал. Хадзі ў чорных акулярах.

**Стралок (23.11. – 22.12.):** Праўда выйдзе наверх: твой „арыгінальны” смартфон зроблены ў Кітаі. Не едзь на сустрэчу з Місяй, з якой пазнаёмішся праз інтэрнэт. Лепш напішы сваёй незнаёмай верш і дашлі яго ў „Зорку”. Нешчаслівае каханне прападзе як ліхое з дымам!

**„Наша Суполка”:**
*Кінга Бадавец, Эмілія Міхалёва, Куба Ваўранюк, Максім Фіёнік і Матвей Навумюк*

# СЯМІВАЛОКІ

Гэтае ўрочышча знаходзіцца побач вёскі Ягаднікі. Са Старога Беразова да Сямівалок каля пяці кіламетраў з гакам, толькі не ведаю колькі гэтага гака будзе. Там знаходзяцца сенажаці стараберазоўскіх сялян. А чаму яны там аказаліся — таксама не ведаю, бо старэйшых людзей, якія аб гэтым расказалі б, няма ўжо ў жывых. А дзе гістарычныя даведнікі пра гэта — таксама не ведаю дзе іх шукаць. Адно вядома, што калісь сенажаці знаходзіліся ў Белавежскай пушчы. Калі пушчанскія ўлады пачалі адпраўляць з лесу непатрэбных людзей, тады і нашых сялян адаслалі. Не ведаю таксама, чаму сенажаці надзялілі каля Ягаднікаў. І не ведаю, адкуль там было столькі вольнага абшару, што ўсім хапіла.

На ўсходзе ад Сямівалок ляжыць вёска Ягаднікі, з поўдня — вёскаІсток, з захаду — Карыціскі, а з поўначы старакарнянскія і махнацкія палі. У саміх Сямівалоках сялян пасялілася мала, можа пяць-шэсць гаспадароў. Спрадвеку гэтыя сенажаці парастаюць карчамі і адзінокімі дрэвамі. І кожнае месца сенажаці мела сваю назву. Ёсць там Камора, Беразняк, Голае Балота, Сучы Верх. І назвы ад вёсак: ад Карыціскаў, ад Ягаднікаў, ад Істоку. І так званы Наддатак.

Адкуль гэтыя назвы ўзяліся? Хто першы іх прыдумаў? Нам невядома. Даўней там дзікая звярына вадзілася, а ў Сучым Вярху то і ваўкі жылі. Цяпер толькі казулі там асталіся, таму і па нашых палях мноства іх ходзіць. Голад іх з Сямівалок выганяе. На тых сенажацях слабая трава расла. Некаторыя сяляне казалі, што калі б да касы прымацаваць мятлу, дык можна было б адразу касіць і траву падмятаць. І відаць было, якая там трава расла. Ды нечаму дзівавацца — падкормкі ніякай не давалі, трава расла сама па сабе. І залежная яна была там толькі ад надвор'я. Зямля была там паўдзікая і вядома, што на такім чымсьці вырасце.

Аднак сяляне касілі, бо ж узімку трэба было чымсьці жывёлу карміць. Таму і вядома было, чаму ведзьма ад кароў малако крала — бо яго ў іх не было. Раслі там толькі маліны і яшчэ цвёрдыя, невялічкія чырвоныя ягадкі, званыя тут камянічкамі. Калі ўжо пачынаўся сенакос, тады назбіраем поўна малін, панаядаемся дасыта і дамоў яшчэ прывязем. А потым усё прапала: ягады звяліся, прапалі камяніцы. А можа мы самі таму вінаваты? Пачалі ўгнаенні даваць, з кожным годам усё больш. Трава стала буйнейшай расці, сена штораз больш сталі збіраць. З тае пары маліны і ягады прапалі. Ваўкі ўжо даўно звяліся, яшчэ толькі казулі асталіся.

Штогод у прыродзе штосьці прападае. А чалавек не хоча, а мо ратаваць не мае сілы. Таму з кожным годам і менш сялян на сенажаць у Сямівалокі выязджае. Бо навошта ездзіць так далёка касіць, калі і каля дому травы хапае. І сена штогод селянін штораз менш патрабуе. Коней у вёсцы ніхто ўжо не гадуе. І кароў з кожным годам усё менш і менш. Людзі гавораць, што гадаваць не аплачваецца. Працы пры іх многа, а малако амаль за бясцэнак трэба аддаваць. Гэтак жа нідзе так не бывае, каб за тавар, які ты прадаеш, цану дыктаваў пакупнік. Куды ж падзелася тая краіна, што малаком плыла? Відаць, усім нам ведзьма яго забрала. Над намі вялікая ведзьма сядзіць і на нашыя пачыны зверху глядзіць. Нам не страшнае ніякае гора, нам усім па калені мора.

**Грыша МАРОЗ**

■ **Марк ЦЫБАРТ**

# Уладзіслаў Эдмундавіч Дзяржынскі (1881-1942)

**Прыемна, калі сочыш за беларускімі слядамі ў гісторыі ці культуры і знаходзіш элементы беларускасці ў вядомых асоб, якія да гэтай пары адназначна прылічваліся да цывілізацыйнай спадчыны іншых народаў. Так было і ў выпадку сям'і Дзяржынскіх. Першым сігналам, што гэта не выпадковасць ці кан'юнктурнасць, калі праф. Уладзіслаў Дзяржынскі прызнаўся ў сваёй беларускасці, было паведамленне д-р Лены Глагоўскай аб смерці Людвікі Дзяржынскай („Ніва" № 25/2009). Чарговым імпульсам была згадка ў артыкуле пра турму ў Радагошчы ў газеце „Dziennik Łódzki" (ад 13.01.2012 г., с. 12). Рашыў я тады прыглядзецца постаці бліжэй мне невядомага мужа колішняй маёй добрай знаёмай. І вось плён маіх пошукаў прапаную чытачам „Нівы".**

## Усё пачыналася ў Дзяржынаве

Ранейшая назва маёнтка Дзяржынава — Аземблава — была зменена ў 1881 годзе пасля ўзвядзення новага двара. Распаложаны ён на акраіне Налібоцкай пушчы каля Івянца, над прытокам Нёмана — Вусай. Парафіяльнай вёскай для маёнтка Дзяржынскіх была Дзераўная Ашмянскага павета. Бацькамі Уладзіслава былі Эдмунд Руфін Дзяржынскі (1829-1882) і Галена, уроджаная Янушэўская (1850-1896). Радня ў яго была даволі вялікая: сёстры Альдона, Ядвіга, Ванда і браты Станіслаў, Казімір, Фелікс, Ігнат. Сам Уладзіслаў нарадзіўся 11 сакавіка 1881 г. Сям'я была рымска-каталіцкага веравызнання. Карысталіся яны гербам „Суліма". Каспер Нясецкі ў сваім „Гербоўніку" так апісвае герб: „Шчыт ушыр на дзве часткі падзелены; у верхняй, залатой часткі паўарла чорнага (...) з дзюбай налева павернутай; у ніжняй, чырвонай — тры каштоўныя камяні ў залатой аправе". У даўніх гербоўніках выступае таксама паралельная форма прозвішча Дзяржынскіх — Дзяржанскія.

Да 1900 г. Уладзіслаў Дзяржынскі закончыў сярэднія школы і паступіў на медыцынскае аддзяленне Маскоўскага ўніверсітэта. Дыплом лекара атрымаў у 1905 г. Неадкладна пачаў псіхіятрычна-неўралагічную практыку, што дазволіла яму ўжо ў 1911 г. абараніць доктарскую дысертацыю. У 1913 г. працаваў ардынатарам Губернскай земскай бальніцы ў Харкаве, а ў 1915 г. стаў дацэнтам кафедры неўралогіі і псіхіятрыі Харкаўскага ўніверсітэта. Пазней была служба на франтах сусветнай вайны. Званне прафесара атрымаў ужо ў 1919 годзе; тады яму было 38 гадоў. Аб яго прафесійнай і навуковай паспяховасці, але і выдатнасці сведчыць факт, што за час сваёй працы ў Расіі апублікаваў 92 навуковыя працы па неўралогіі.

Першы раз ажаніўся ў 1905 г. з Зофіяй Сіла-Навіцкай, а год пазней нарадзілася ім дачка Зофія. Дзіўнай была гэтая асоба: яна адзіная ў сям'і так захапілася дзядзькам, крывавым Феліксам, што рашыла спадарожнічаць яму ў Маскве і рабіла гэта да канца яго жыцця. Паколькі сужэнства яе бацькоў аказалася няўдалым, на гэтай новай дарозе жыцця суправаджала яе ўвесь час маці (дзяўчынцы раптам было 14 гадоў), што абазначала канчатковае парванне сувязей Уладзіслава з першай жонкай.

Некалькі гадоў пазней Уладзіслаў ажаніўся паўторна. Першая жонка жыла яшчэ да 1943 г., памерла ў Алма-Аце. Іх дачка Зофія Кавалеўская памерла ў Маскве ў 1984 г. Другой абранніцай Уладзіслава стала Кацярына Інакенцьеўна Авяр'янава, удава па забітым рэвалюцыйным збродам пракуроры. У яе з першага сужэнства была дачка Вера, пазнейшая жонка прафесара Ваеннай медыцынскай акадэміі ў Лодзі Габрыеля Фіялкоўскага. Другая жонка Уладзіслава Дзяржынскага была прыгожай, прыстойнай, вельмі прыемнай у кантактах, вясёлай натуры жанчынай. Дзяржынскія пабраліся шлюбам у 1922 г. у Екацярынаслаўлі. Неўзабаве пакінулі яны савецкую Расію і пераехалі ў Польшчу.

Стабілізацыя на новым месцы прыйшла няхутка. Уладзіслаў пачаткова служыў у Войску Польскім і займаўся прыватнай лекарскай практыкай. У 1930 г. Дзяржынскія пераехалі ў Лодзь на сталае месцажыхарства. Некалькі гадоў пазней пасяліліся ў новай віле па вул. Элізы Ажэшкі, у квартале Юліянава. Быў гэта (і застаўся) элегантны квартал з невялікіх рэзідэнцый і падобных ім шматкватэрных дамоў, у якіх жыла лодзінская чыноўніцкая інтэлігенцыя. Блізка іх жыло яшчэ некалькі сем'яў, якія выводзіліся з Расіі, напрыклад, Гразновы ці Раставецкія.

Прафесійная кар'ера і прыватная лекарская практыка дазвалялі Дзяржынскім на спакойнае, заможнае жыццё. Прафесар Дзяржынскі працаваў у 4-й Акруговай ваеннай бальніцы па вул. Жаромскага, быў ардынатарам новазаснаванага шпіталя Касы хворых — цяпер шпіталя імя Барліцкага — па вул. Капцінскага, дзейнічаў у навуковых таварыствах. У водпуск не адзін раз ездзіў у роднае Дзяржынава або да брата Ігната ў маёнтак Вылёнгі каля Казімежа-Дольнага. Пабыўкі доктара Дзяржынскага ў родным маёнтку доўга ўспаміналіся мясцовым насельніцтвам, якое той лячыў задарма. Многа паляваў, што было тэмай шматлікіх сямейных анекдотаў.

У 1939 г. успыхнула вайна. Лодзь пасля прыходу немцаў была далучана да Рэйха і перайменавана ў Ліцманштадт. Насельніцтва захопленых тэрыторый акупанты дзялілі на розныя катэгорыі паводле нацыянальнасці. У сям'і Дзяржынскіх дзве жанчыны назвалі сябе расіянкамі, а Уладзіслаў заявіў аб сваім далучэнні да спіска беларускай нацыянальнасці. Што ў найбольшай ступені паўплывала на гэта, цяжка сёння прадвызначыць, хаця яго паходжанне з этнічных беларускіх зямель апраўдвала б такое рашэнне. Можа сваю ролю сыгралі сантыменты перыяду дзяцінства, якое прайшло ў беларускім асяроддзі — невядома. Ва ўсякім выпадку блізкай яму мусіла быць беларуская ідэя, калі ў такі важны момант афіцыйна прымкнуў да яе.



Свайго роду ахоўны парасон стварала сям'і Дзяржынскіх блізкае сваяцтва з Феліксам, які карыстаўся асаблівай пашанай у Савецкім Саюзе (трэба помніць, што першыя гады вайны гэта перыяд гітлераўска-савецкай дружбы і братэрства па зброі). Але пасля 22 чэрвеня 1941 г. гэты факт страціў значэнне. Тым часам палкоўнік Дзяржынскі далучыўся да падпольнай дзейнасці Арміі Краёвай. На жаль, у лютым 1942 г. пасля правалу ў лодзінскіх структурах АК праф. Дзяржынскі быў арыштаваны. Неўзабаве апынуўся ў страшэннай паліцыйнай турме на Радагошчы (дарэчы, недалёка ад месца, дзе жыў). Здаецца, што нават у такіх страшэнных умовах, у якіх апынуўся арыштаваны, у нейкай ступені ахоўвала яго міфічная легенда яго брата Фелікса. Характэрнай была грамадзянская пазіцыя прафесара ў час шматлікіх і крывавых турэмных пераклічак: калі гналі зняволеных, Уладзіслаў не скрываўся ад удараў вахманаў, не ўцякаў, толькі ішоў спакойна, з паднятай галавой.

Аж надышоў трагічны дзень 20 сакавіка 1942 г. У адплату за забойства двух гестапаўцаў немцы сарганізавалі ў г. Згеж публічную экзекуцыю ста палякаў. Прывезлі іх з турмы ў Радагошчы на гарадскую звалку на пляцы Стодул (сёння Пляц Ста страчаных) і тут усіх публічна расстралялі. Целы забітых пахавалі ў лесе каля вёскі Люцьмеж, у якім немцы ўсю акупацыю скрывалі сляды сваіх злачынстваў. Дзесьці ў гэтым лесе пакоіцца і прах праф. Уладзіслава Дзяржынскага.

Кацярына Дзяржынская пражыла мужа на 34 гады. Увесь час была актыўнай прыхаджанкай Праваслаўнага прыхода св. Аляксандра Неўскага ў Лодзі. Калі Рускае культурна-асветнае таварыства ў Лодзі адкрыла Рускі клуб, была яго пастаяннай наведвальніцай і разам з прыхадской старшынёй Марыяй Сямёнаўнай Ярмаловіч — гаспадыняй арганізаваных у клубе вечарын пры самавары. Заўсёды радасная, з усмешкай, прыцягвала ўвагу ўдзельнікаў мерапрыемстваў, якія адчувалі сябе ў яе прысутнасці чаканымі і мілымі гасцямі. Тым больш, што ўсе ведалі адзін аднаго з сустрэч у царкве. Ніколі яна не ставілася абыякава да людскіх патрэб. Аўтар гэтах радкоў абавязаны ёй у выратаванні яго маладой тады яшчэ скуры ад рэпрэсій улад: магія прозвішча дейнічала надалей і тупалобыя апаратчыкі на ўсялякі выпадак лічылі за лепшае не настройваць яе супраць сябе. Кацярына Дзяржынская памерла 27 чэрвеня 1976 г. на 88 годзе жыцця. Пакоіцца яна на праваслаўным могільніку Долы, а побач яе спачываюць дачка Вера і зяць.

Таксама сястра Дзяржынскіх, Альдона Каяловіч, выкарыстоўвала змрочную славу брата Фелікса і адважна заступалася за нявінна пакараных у сталінскі час. Не ўдалося ёй, праўду кажучы, выратаваць зродненага з ёй генерала Эміля Фільдорфа „Ніля", але ўжо мецэнат Уладзіслаў Сіла-Навіцкі менавіта ёй абавязаны ў невыкананні на ім смяротнага пакарання. Цётка мецэната, Станіслава, уроджаная Сіла-Навіцкая, была жонкай брата Дзяржынскага — Ігната, які да смерці жыў з сям'ёй у сваім родавым двары Вылёнгі каля Казімежа-Дольнага.

Такім чынам не толькі праф. Уладзіслаў Дзяржынскі, але і астатняя частка роду Дзяржынскіх пакінула па сабе добрую памяць і ўдзячнасць у людскіх сэрцах. А сам Уладзіслаў Эдмундавіч, хаця не ўнёс вялікага ўкладу ў беларускую ідэю, аднак быў асобай, якой беларускі народ смела можа ганарыцца.

# Па былой Бельскай пушчы (1)

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**У мінулым годзе дарожныя службы ладзілі дарогу з Гайнаўкі ў Беласток, што знаходзіцца ў вобрубе Навасад, сёлета ўзяліся за той адрэзак, які адначасна з'яўляецца вясковай вуліцай у Дубінах. Ну і язда паміж Гайнаўкай і Беластокам па ўсталяваным пры камуне маршруце, дзе цяпер крыху „маятнікавых” адрэзкаў, нявыгадная, таму прыходзіцца мінаць яго іншымі дарогамі, напрыклад, цераз Чыжыкі і Трывежу. У цёплыя падвячоркі на амаль апусцелых тамашніх вулічных лавачках сядзяць малалікія ўжо вяскоўцы. Задумаў і я да іх крыху прысесці.**



Хата Мікалая Раманюка ў Койлах

З пэкаэсаўскага аўтобуса злез я ў Новым Корніне перад дзевятай гадзінай раніцы, спадзяючыся, што і зранку людзі выйдуць пасядзець на лавачках, каб абмяняцца ранішнімі навінамі. Але лавачкі тыя ў той час пуставалі. Адно перад крамай сядзелі жанчына і мужчына; жанчына аказалася прадавачкай. Побач крамы пункт прыёму малака, а за гэтымі двума будынкамі яшчэ і пажарнае дэпо, каля якога акурат праводзяцца рамонтныя работы.

Цікаўлюся шматлікасцю пажарнай каманды, на што мужчына адказвае, што ў вёсцы пажарнікаў шмат. А пра іншае інфармуе мяне жанчына: на лавачкі няма каму выходзіць; вось толькі калі малако сяляне прывязуць, дык крыху затрымаюцца пры краме. А старэйшым людзям няма да каго выходзіць на тыя прысядзібныя лавачкі — мала ўжо іх асталося. Ды і з малаком справа ў Новым Корніне нецікавая — пункт прыёму малака гайнаўская малачарня мае неўзабаве закрыць, а вытворцам сырадою, якіх у вёсцы толькі пецярых, прыйдзецца вазіць яго або ў Трывежу, або ў Чыжыкі; студзільніка малака ніхто ў вёсцы не мае.

Сама назва Новы Корнін выводзіцца ад іншага Корніна, які атрымаў назву Старога. Мабыць, гэтыя вёскі, а можа толькі старэйшая з іх, атрымалі свае назвы ад каранішчаў пасля высечкі лесу, колішняй Бельскай пушчы, якая ад усходу межавала з Белавежскай, а на поўначы ахоплівала, мабыць, усю Бельскую зямлю, аж па Бобру. Толькі пазней тая паўночная частка атрымала назву Кнышынскай, калі вырасла значэнне Кнышына пры панаванні Жыгімонта Аўгуста. А паўднёвая частка Бельскай пушчы паступова ад Бельска аддалялася, згортвалася і нават назву памяняла на Лядскую. Мабыць, адну з ляд засялілі выхадцы з ранейшага, Старога, Корніна, і пасяленне атрымала назву Новага Корніна.

З Новага Корніна, з расходных дарог што пасярэдзіне вёскі, адпраўляюся ў бок Койлаў. Некалі ў тамашнім наваколлі пралягаў г.зв. Царскі гасцінец. І сапраўды — адрэзак дарогі, што даходзіць да расходных дарог у полі, такі, быццам быў нарыхтаваны для праезду царскага экіпажа, а далей — быццам для праезду Гогалевага Чычыкава. На разыходзе дарог драўляны крыж з надпісам „За здравье М., А., Е., В., Ц., Ц., К., Ф., Н.” Імёны пазначаны толькі пачатковымі літарамі, бо ж не смяротнікам яны, толькі ўсяведнаму Адрасату ахвяравання.

Перад Койламі кот, што быў выбраўся ў поле дзеля нейкага палявання, пабачыўшы мяне, стаў з дарогі адступаць у вёску. Там запыніўся ён за кусцікам травы, трывожна ўглядаючыся, што гэта за дзіўнае стварэнне на дзвюх нагах валочыцца па палявых дарогах. Магчыма, што той кот за ўсё ягонае жыццё бачыў у полі толькі такія большыя за яго арганізмы, што з грукатам перамяшчаюцца на чатырох круглых вярчальных нагах...

Неўзабаве паказалася крама з вывешкай пра продаж будынка. Побач былой крамы таксама пустуючы будынак былога пункту прыёму малака...

Каля капліцы, што высіцца пасярэдзіне Койлаў, стаяў фургон з шафёрам усярэдзіне, двух яго пасажыраў прылегла на зялёнай траўцы, а на лавачцы побач сядзеў пажылы вясковец. Чакалі яны войта Чыжоўскай гміны і неўзабаве войт, Юры Васілюк, з'явіўся. Гаспадар гміны падаўся на супрацьлеглы каплічцы бок вуліцы, а за ім экіпаж машыны, для разгляду месца пад стаянку. Як інфармаваў мяне пажылы вясковец з лавачкі, у будынку цяперашняй вясковай святліцы, побач якога прадбачваецца стаянка, была калісь школа, пабудаваная адначасна з капліцай у царскі час; даведнікі падаюць, што капліца была ўзведзена ў 1909 годзе. Калі раней было ў Койлах больш дзяцей, вучыліся яны не толькі ў гэтым школьным будынку, але і ў найманых



сялянскіх хатах. Варта тут дадаць, што ў канцы XIX стагоддзя ў Койлах пражывала звыш паўтысячы душ; столькі назбіралася ў вёсцы народу за чатыры стагоддзі, бо Койлы ўпершыню з'явіліся на старонках захаваных дакументаў у 1576 годзе, калі былі яшчэ вёскай асочнікаў, якіх задачай была ахова Бельскай пушчы; трэба, аднак, меркаваць, што вёска існавала ўжо шмат часу да тае першае згадкі...

У капліцы раз у месяц адбываюцца набажэнствы; служаць іх духоўныя з Чыжоўскага прыхода. На маю заўвагу, што такая малая каплічка мала мае месца для вернікаў, мой субяседнік адказаў, што вернікаў вельмі мала. Цяпер вёска пастарэла, амаль адны адзінокія пенсіянеры асталіся. Вяскоўцы трымаюць усяго пяць кароў, малака ніхто не здае; калісь адзін гаспадар займаўся буйнейшай вытворчасцю малака, аднак перакінуўся на гадоўлю свіней, бо прамыванне дайльнай апаратуры палічыў занадта працаёмкім. А іншы набраў гектараў і займаецца вырошчваннем збожжавых культур.

Перад канцом вёскі на прысядзібнай лавачцы перад даволі старой з выгляду, але салідной хатай сядзеў іншы пажылы мужчына. Хата не толькі салідная, але і з мастацкай аддзелкай. Мужчына, Мікалай Раманюк, паведаміў мне, што хату ён купіў некалькі гадоў таму, а была яна пастаўлена яшчэ ў царскі час, мабыць разам з высокім крыжам, што высіцца перад хатай. На крыжы высечаны ледзь чытабельны яшчэ надпіс: „Кресту Твоему поклоняемся Владыко. О здравіи Андрея, Маріи, Осипа, Макарія, Веры, Антонины. Сохрани Господи от всяких бед”. Хата нядаўна адноўлена, а я спытаў гаспадара ці не занесена яна ў спіс помнікаў даўніны, што дазваляла б спадзявацца нейкай дапамогі ў яе захаванні. Гаспадар адказаў, што не занесена, а ў Гмінным асяродку культуры пазней я даведаўся, што гэтую хату заяўлялі для заносу ў такі спіс, але захавальнікі паставіліся да заяўкі адмоўна.

У пачатку Асоўкі, з яе паўночнага боку, у салідна кованай агароджы два цэментныя крыжы: праваслаўны і каталіцкі. На каталіцкім пазначаны год 1950, а на праваслаўным — 1951. Недалёка сядзелі на лавачцы дзве жанчыны і я пажартаваў, што калі католікі паставілі свой крыж, дык за імі і праваслаўныя спахапіліся, каб і свой паставіць. Акурат так склалася, што экіпаж лавачкі быў шматканфесійны і шматнацыянальны, таму атрыманую ад жанчын інфармацыю лічу беспамылковай. У месцы, дзе зараз стаяць згаданыя бетонныя крыжы, раней стаяў толькі драўляны праваслаўны крыж, які праваслаўныя падмянілі бетонным, католікі паставілі свой крыж пазней; чаму высечаныя на іх даты паведамляюць пра адваротнае, жанчыны не ведалі. У мінулым годзе на крыжы павалілася дрэва, якое разбіла праваслаўны крыж, аднак вяскоўцам удалося яго сабраць і склеіць. Даведаўся я, што католікі выводзяць сваіх пакойнікаў цераз паўночны канец вёскі, у Гайнаўку, а праваслаўныя цераз паўднёвы, дзе яшчэ два праваслаўныя крыжы... Людвік Чаркоўскі ў сваім апісанні Бельскага павета з 1907 года Асоўку падае, што яна „zamieszkana przez włościan Polaków”; магчыма, што за сто гадоў нацыянальная характарыстыка Асоўкі крыху памянялася і то ў нечаканым, супрацьтрэндавым напрамку. Але таксама магчыма, што і праўда была ў той час крыху іншая...

Дарэчы, пра Асоўку цяжкавата знайсці нейкія буйнейшыя звесткі гістарычнага характару, ды і пра суседнія вёскі таксама не надта багата. Людвік Чаркоўскі меў такі сам клопат: „Nieraz zdarzało mi się czytać narzekania lingwistów naszych i badaczy rzeczy krajowych na brak spisów nazw miejscowości i nazwisk ludowych. Z niektórych okolic posiadamy takie spisy, acz niezupełnie podobno dokładne. Podlasie i tu wygląda jak kopciuszek, o którym zapomnieli. Z Ziemi Bielskiej podał wprawdzie p. Glogier 469 nazw, ale tylko wsi drobnoszlacheckich, i to w tej jednej ziemi, z czego przypada na północną część pow. Bielskiego (która wchodziła w skład Ziemi Bielskiej) nazw 69, z ziem zaś Drohickiej i Mielnickiej brak nawet takich danych. Wielką obfitość nazw miejscowości i krótkich opisów umieścił „Słownik Geograficzny”, ale i tutaj Podlasie, a zwłaszcza powiaty Bielski i Białostocki, były traktowane po macoszemu, bez wątpienia nie przez żadne uprzedzenie do naszego kąta, lecz z powodu braku źródeł drukowanych z jednej strony, a chętnych na miejscu współpracowników z drugiej. Porównałem z posiadanym przez siebie spisem miast i wsi w pow. Bielskim cztery pierwsze tomy Słownika (od A do końca K) i znalazłem: 6 miasteczek opisanych dosyć dokładnie (z wyjątkiem Bielska, w którym redakcja umieściła gimnazjum męskie, progimnazjum i seminarium pedagogiczne, a których tam jako żywo nigdy nie było i niema; istnieje tylko 2-klasowa szkoła powiatowa; widocznie pobruździł tu Bielsk na Szląsku austrjackim) i 38 wsi, z których 23 widocznie powtórzono za Glogierem, ze wzmianką, że taka wieś istnieje w gub. Grodzieńskiej, dawnej Ziemi Bielskiej, a zaledwie 9 (!) wsi opisano nieco obszerniej (naprz. Bujaki, Granne, Krupice); ale już mniejsza o to, kiedy o 196 wsiach (od A do L) nawet i tej wzmianki nie znajdziemy, że istnieją”. Польшча Б існавала ў нас здаўна... На мой этымалагічны нюх, назва Асоўкі магла выводзіцца ад асочнікаў, бо ж хіба і тут трэба было ахоўваць вельмі далікатную ў той час Бельскую пушчу.

Пасярэдзіне Асоўкі святліца ў прыстасаваным для культурных патрэб будынку былога пункту прыёму малака. Жанчына, што выйшла з недалёкай хаты, паведаміла мне, што ў прыбудоўцы была крама, а цяпер у будынку адбываюцца трызны і хрысціны. На пытанне, ці многа ў Асоўцы школьных дзяцей, налічыла мне іх сямёра; гэты лік быў для мяне вельмі прыемным сюрпрызам, бо ў Асоўцы шмат хат ужо пустуе, гэтак жа сама, як і ў раней наведаных Койлах і ў Новым Корніне... (*працяг будзе*)

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# „Гуляй разам з намі” ў Шудзялаве

Ранкам у аўторак, 12 чэрвеня, шудзялаўскія вучні прыйшлі ў школу без ранцоў і зробленых хатніх задачак. Разам з настаўнікамі яны падаліся на мясцовую спартовую пляцоўку сустракаць новых сяброў з іншых адукацыйных і апякунскіх устаноў Сакольшчыны. Спецыяльна для іх Гмінны асяродак анімацыі культуры і рэкрэацыі ў Шудзялаве падрыхтаваў многа сюрпрызаў у рамках акцыі „Гуляй разам з намі”. Ужо другі выпуск гэтага мерапрыемства адкрыла дырэктар асяродка Альжбета Ярашэвіч. Яна прывітала ўсіх аматараў добрай гульні і здаровага спаборніцтва, згуртаваных пры Аб'яднанні ў карысць інвалідаў „Радасць жыцця” з Дубровы-Беластоцкай, Доме самадапамогі і Аб'яднанні ў карысць інвалідаў „Разам” з Саколкі і Аб'яднанні ў карысць інвалідаў і сацыяльна выключаных „Драбіна” з Крынак, а таксама вучняў школ у Шудзялаве і Бабіках. Словы падзякі накіравала яна спонсарам, у ліку якіх апынуліся Павятовы цэнтр дапамогі сям'і, Павятовае старaства ў Саколцы, войт Шудзялаўскай гміны і дырэктар мясцовай школы. Вылучыла таксама жанчын са станцыі апекі „Карытас”, якія наглядалі за бяспекай удзельнікаў мерапрыемства.

Праграма мерапрыемства сапраўды была вельмі насычанай і разнароднай. Шматлікія аматары спорту спаборнічалі, між іншым, у гонках з выкарыстаннем вялікіх, каляровых, пляжных мячоў, у кідках шапкай, слаломах з парасонам і гонках чыгунак. Былі таксама футбольныя матчы ў рамках школьных чэмпіянатаў. Дадатковыя конкурсы падрыхтаваў дзецям калектыў беластоцкага аб'язнога тэатра „Форма”. Маладыя акцёры ў касцюмах вядомых казачных персанажаў вадзілі вясёлыя карагоды, адкрылі студыю дзіцячага мастацкага макіяжу і фабрыку каляровых паветраных шароў. Не абышлося і без сапраўднага спектакля. На сцэне шудзялаўскага амфітэатра беластоцкі тэатральны калектыў запрэзэнтаваў спектакль „Пінокіё” па матывах аднайменнай казкі Карла Калодзі.






На вялікай пляцоўцы адначасна са спартыўнымі гульнямі праходзіў фатаграфічны конкурс „Дзіця ў аб'ектыве”. Трэба было вынесці на суд дзіцячага журы самы смешны фотаздымак. Ахвотных пасмяяцца з сябе не бракавала, былі і ўзнагароды. Вельмі весела было і ў раёне прэзентацыі сілавых структур. Шудзялаўскае падраздзяленне пагранічнікаў супольна з сакольскай паліцыяй знаёмілі дзяцей з тайнамі іхняй прафесіі. Пры нагодзе можна было пасядзець у спецыяльных аўтамашынах ці сфатаграфавацца ў паліцэйскай шапцы. Былі і мясцовыя пажарнікі, якія з ахвотай распавялі пра сваю вельмі адказную работу. Шудзялаўская гміна багатая лясамі, таму пажарнікам ёсць чым заняцца. Яны не толькі назіраюць за пажарнай бяспекай, але таксама асістуюць пры пасадцы санітарных верталётаў.

Можна было заглянуць і на вельмі багатую выставачную секцыю „Праца нашых рук”. Госці і гаспадары гэтага мерапрыемства паказалі сапраўднае мора колераў і ўзораў рукадзельнага майстэрства. Барбара Кундзіч з сакольскага дома самадапамогі разам са сваімі падапечнымі падрыхтавала цудоўныя, драўляныя анёлы. Цікава прэзентаваліся таксама іхнія аздобы са шнура. Спадарыня Барбара выявіла сакрэт удалага майстэрства. Яе выхаванцы самі выбіраюць тэхніку працы і сыравіну. Аказваецца, у рукадзеллі перш за ўсё трэба сябе добра адчуваць, быць упэўненым у сваёй рабоце і проста любіць яе. Удалыя работы маладых рукадзельнікаў штодзень можна паглядзець і набыць у публічнай бібліятэцы ў Саколцы.

Удзельнікаў мерапрыемства „Гуляй разам з намі” чакала таксама сцэна з „мікрафонам для ўсіх” і, што таксама нямала важнае, цёплая страва.

Першакласніцы Олі Копцінскай з Шудзялава вельмі спадабаліся ўсе святочныя сюрпрызы, але найбольш цешыла цудоўная, сяброўская атмасфера гэтага незабыўнага, дзіцячага мерапрыемства.




# www.belarusbeatbox.com

Моладзевая музыка не заўсёды зразумелая сталаму пакаленню. Ад гэтага неразумення старэйшыя людзі не хочуць яе слухаць, а часам увогуле не заўважаюць. Праўда, ад таго, што яны нечага там не заўважаюць, не вынікае, што гэтага нечага няма альбо яно зусім ужо нецікавае. Менавіта гэтак можна сказаць аб адным з напрамкаў моладзевай музыкі, які мае назву „бітбокс”.

Слова, што гучыць як удары па барабане і ў літаўры, насамрэч абазначае імітацыю музыкі чалавекам. Праўда, музыкі з большага менавіта ўдарных інструментаў, але там можна пачуць і духавыя, і нават струнныя. Усё залежыць ад таго, што імітуе выканаўца, прычым імітацыя адбываецца выключна моўным апаратам — то бок губамі, зубамі, языком, носам, горлам.

Каб не толькі прачытаць, але і пачуць, як гучыць бітбокс, трэба зазірнуць на адну вэб-старонку, якая не так даўно ўзнікла ў Байнэце. Пэўна, адзіны на свеце сайт бітбокса па-беларуску месяцца па адрасе **www.belarusbeatbox.com** і выклікае прыемнае здзіўленне, бо зроблены хоць і проста, але прафесійна і арыгінальна, і самае галоўнае — цалкам па беларускай мове. Ён з'яўляецца віртуальным прадстаўніцтвам Беларускага бітбокс аб'яднання.

„Нечалавечыя гукі ў чалавечым аблічы, вялікі і малы барабаны, талеркі, тамы, птушкі, сабакі, самалёты, саксафон, скрыпка, труба... Вы думаеце, я апісваю Ноеў каўчэг? Не, гэта бітбокс, дзетка, гэта бітбокс...”, — так прэзентуе сваю ўлюбёную музыку невядомы ўладальнік сайта.

Паколькі сайт няцяжкі ў навігацыі, а ўсе выйсці на рубрыкі яго месцяцца толькі ўверсе выяўлення, то галоўныя навіны, якія знаходзяцца з левага боку, пабачыць вельмі лёгка. Дзякуючы таму, што абнаўляюцца яны пакуль даволі аператыўна, то пазнаёміцца з апошнімі выступамі беларускіх бітбоксераў не складае аніякай праблемы. Дарэчы, у той жа рубрыцы месціцца і відэа з замежнымі выканаўцамі-бітбоксерамі.

Пра бітбокс у свеце распавядаецца як у аднайменнай рубрыцы „У свеце”, так і ў „Артыкулах”. Апошнія змяшчаюць усяго толькі тры тэксты, з якіх, праўда, можна даведацца пра школу ў Беларусі, дзе можна навучыцца на бітбоксера.

Рубрыка „Падзеі” пакуль не надта насычана інфармацыяй. Там толькі адзін матэрыял, у якім расказваецца аб тым, што такое Beatbox Battle Maurepas. А гэта, аказваецца, сапраўдны бітбоксінг-фэст даўжынёю ў два дні, дзе апроч яркіх паядынкаў па бітбоксе праходзяць майстар-класы. Такім чынам зацікаўленым у навучанні бітбокс-спяванню варта пазнаёміцца з відэаролікамі, дзе паказана, як гэта адбываецца, і можа нечаму адразу і навучыцца.

Старонка „Мультымедыя” прапануе наведвальнікам пазнаёміцца з сябрамі беларускіх бітбоксераў з Польшчы і Германіі. Польскі бітбоксер Zgas — адзін з піянераў польскай школы бітбокса. „Займацца ён пачаў у 1998 годзе, за гэты срок ён паспеў стаць двукратным чэмпіёнам Польшчы, не раз удзельнічаў у сусветным чэмпіянаце”, — распавядаюць аб ім беларускія бітбоксеры. У сваю чаргу немец Rookiie мае другое месца ў Braunschweiger Beatbox Contest. Згодна пададзенай інфармацыі, ён паспеў таксама паўдзельнічаць у Grand Beatbox Battle, які праходзіць штогоду ў Швейцарыі.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

## Каштоўныя літары

Даўно і многімі адзначана і даказана, што родная мова для чалавека гэта не проста спосаб камунікацыі і паразумення, але найперш светаглядная каштоўнасць, духоўны скарб, вялікі Боскі дар. Напачатку было слова, але кожнае слова складаецца з асобных літар. У розных мовах ёсць свае ўнікальныя адметныя значкі і сімвалы, якія надаюць ім асаблівы каларыт, асаблівае гучанне, непаўторнасць. Прыкладам нямецкая лігатура „ß”, якая чытаецца як падвойнае „s”. Дзякуючы таму, што слова „Straße” пішацца менавіта з гэтай літарай і вісіць на ўсіх шыльдах з назвамі вуліц, яно трывала ўвайшло не толькі ў германскую культуру, але і ў візуальнае ўспрыманне тамтэйшай рэчаіснасці іншаземцамі. Нібыта немцы ўжо хацелі ад гэтай лігатуры зусім адмовіцца, але ні то ў час схамянуліся, ні то спалохаліся замены на „ss”.

Для беларускай мовы асаблівa дарагія дзве літары. Па-першае, „рэпрэсаваны” пры бальшавіках мяккі знак — „ь”. Ён ёсць не толькі ў нашым алфавіце, але і ў шэрагу іншых славянскіх моў. Паходзіць мяккі знак ад старажытнай кірыліцкай літары, якая называлася „ер”. Функцыянальна ён служыць для памякчальнасці і падзяляльнасці.

Бальшавікі ад пачатку ў парыве свайго дзікунскага „інтэрнацыяналізму” імкнуліся да знішчэння адметнасцей розных народаў, „стирания граней”. Нацыянальныя мовы былі адным з аб'ектаў знішчэння. З гэтай мэтай і была ў трыццатых гадах праведзена рэформа правапісу, беларуская мова мусіла набліжацца да „великого и могучего”. З таго часу і пайшоў правапісны падзел на „тарашкевіцу” і „наркамаўку”. Саветы нішчылі і сваю мову, пра лексіку тут ужо і не кажу, нават калечылі асобныя літары. Прыкладам літара „ё”. Кропачкі гэтыя нібыта няззручна было ў старых друкаваных машынах набіраць, ну а потым так і засталося. Сучасныя расейцы зразумелі важнасць такой страты і ў нейкім горадзе сваёй глыбінкі нават помнік літары „Ё” паставілі. Але заганная традыцыя пісаць „е” замест „ё” так і засталася, ды перакінулася і ў нашу мову. Часам гэтая страта дзвюх кропачак даводзіць да недарэчнасцей. Прыходзіш у якую-небудзь дзяржаўную ўстанову, ідзеш па калідоры і натыкаешся на дзверы з шыльдачкай „Прыемная”. І ўжо не разумееш куды трапіў — у дзяржаўную канцылярыю ці дом зусім іншага характару. З назвамі мясцовасцей таксама казусы. Замест „Азёраў” на шыльдах можна ўбачыць „Азеры”. Вось і думай — беларусы тут жывуць ці азербайджанцы!?

Выкараненне ж мяккага знака ў беларускай мове прывяло да страты мяккасці і мілагучнасці, штучнага набліжэння да расейскай мовы. Паэт Сяргей Сокалаў-Воюш напісаў нават адмысловую паэму, якая так і называецца „Ь”.

Іншая каштоўная літара ў беларускай мове — гэта „у нескладовае” — „ў”, якую часта памылкова па аналогіі з расейскай мовай называюць „у кароткае”. Тут мы можам пахваліцца адмысловым помнікам — у калысцы беларускай дзяржаўнасці, слаўным горадзе Полацку гэтая літара ўганаравана ў скульптурнай кампазіцыі. У старабеларускай пісьменнасці дваццаць другая літара нашага алфавіта, якая ўтворана спалучэннем звычайнага „у” з дыякрытычным значком зверху, не ўжывалася. Нібыта прапанавана яна была ў 1870 годзе маскоўскім філолагам і фалькларыстам Пятром Бяссонавым. Па сутнасці ў нашай мове гэтая літара перадае гук, які адпавядае ў англійскай мове зычнаму „w”. Прыжылося „ў” трывала ў нашаніўскі перыяд, а зараз настолькі арганічная, што без яе ніяк не абысціся. Зараз яна ляшчэ і брэнд, а ў Мінску галерэя пад назвай „Ў” стала асяродкам нацыянальнага адраджэння. Беражыце нашы літары!

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Уладзімір СІДАРУК

# Сумная рэчаіснасць

У 20 нумары „Нівы” ад 13 мая друкавалася публікацыя Грышы Мароза „А так мела быць добра і весела”, у якой аўтар прадставіў працэсы цывілізацыйнага прагрэсу. Не стану паўтарацца ў тым, што напісаў калега. Хачу ад сябе прыкінуць некаторым і завадатарам культурных пачынанняў быў Мікалай Гарадкевіч. На спартыўнай ніве лаўры збіраў спартыўны клуб „Калеяж” пад кіраўніцтвам трэнера Славаміра Багроўскага. Таленавітых спартсменаў працай забяспечвала паравознае дэпо. Чаромха, як важны чыгуначны вузел (тут крыжаваліся лініі ў чатырох напрамках), была кругласутачна забіта таварнымі цягнікамі. Транзітам праходзілі дзесяткі саставаў з ГДР у СССР. Савецкія чыгуначнікі з Высока-Літоўска пазменна прыязджалі на працу ў Чаромху. Квітнела польска-савецкая дружба, ладзіліся прыязныя міжлюдскія адносіны. начальнікі. На станцыі, напрыклад, лік адміністрацыйных чыноўнікаў павысіўся ў тры разы, прытым адпаведна паменшылася лік рабочых і кандуктараў. Для Чаромхі насталі цяжкія дні. Людзі трацілі працу, пачала падаць гаспадарка. Моладзь пакідала бацькоўскі кут і падавалася ў горад у пошуках працы. Па прычыне недахопу фінансавых сродкаў адмянілі курсіраванне цягнікоў. З даўнейшых шасці пар (там і назад) засталася палова. Цяпер і гэтыя мяркуюць адмяніць. Пустуюць службовыя памяшканні паравознага і вагоннага дэпо. Падобны лёс і ў трохпавярховага будынка станцыі. Разбураюцца пачакальні і прыбіральні на прыпынках. Падарожным у зімовы час ці дажджавое надвор’е няма дзе схавацца. Нават з фізіялагічнай патрэбай трэба скрывацца перад людскім зрокам у бур’ян ці кусты. Вось да чаго давяла рынечная эканоміка і прынцыпы дзікага капіталізму. А казалі, што прыватнік гарантуе лепшую дбайнасць аб грамадскую маёмасць і не дазволіць яе раскрадаць. Усё атрымалася наадварот. Уладальнікі цяперашніх цэхаў і прадпрыемстваў у летні час адпачываюць на замежных курортах, а работнікам плацяць што з носа капне. Ці за такую рэчаіснасць змагаліся чарамшане і мільёны рабочых?..

Фота аўтара



Чарамшане на шэсці (фота з архіва ГАК)




Разбуранае памяшканне дзяжурнага руху і пачакальня ў Леўках

калькі слоў, карыстаючыся прыкладам чыгуначнага асяроддзя.

Пры камуне Чаромха лічылася важным чыгуначным цэнтрам. Як казалі, была маці-карміцелькай для жыхароў пасёлка і навакольных вёсак. Людзі мелі працу. Квітнела жывёлагадоўля, як грыбы пасля дажджу выраслалі шыкарныя дамы і гаспадарчыя забудовы. Ва урочышчы „Каганка”, дзе калісьці раслі кусты ядлоўцу і гуляў вецер, узнік жыллёвы пасёлак. А ўсё гэта справа рук чаромхаўскіх „сяляна-работнікаў”. Выкарыстоўваўся імі найменшы лапік зямлі, узорвалі няўгоддзі. Кожны колас лічыўся тады на вагу золата. А як жыла моладзь? Прыпяваючы! У маёй вёсцы Кузаве, напрыклад, дынамічна працавалі маладзёжныя арганізацыі і мастацкі калектыў. Ставіліся п’есы, у вясковым клубе „Рух”, моладзь арганізавала забавы і святочныя вечарыны. Аматары спорту, згуртаваныя ў ЛЗС, ладзілі спаборніцтвы па футболе і валейболе. У Чаромсе ў тым жа часе на грамадскіх пачатках пабудавалі дом культуры „Чыгуначнік” (Калеяж). Пачало ў ім бурліць культурнае жыццё. Выступалі айчынныя і замежныя калектывы, ладзіліся аўтарскія сустрэчы, дэманстраваліся кінафільмы, арганізаваўся духавы аркестр чыгуначнікаў. Важа- Чарамшане мелі адкрытае акно ў свет. У суткі курсіравала шэсць пар цягнікоў у напрамку Гайнаўкі і Беластока, без праблем можна было дабрацца ў Варшаву і Брэст. Дацэньваючы добрасумленнасць і самаахвярнасць рабочага калектыву, улады Цэнтральнай дырэкцыі ПКП у Варшаве прапанавалі збудаваць у Чаромсе новы вакзал з сацыяльна-адміністрацыйнай базай. Мясцовыя чыгуначнікі далі станоўчую падтрымку ідэі і актыўна ўключыліся ў ход працы. Гэта быў іх падарунак у гонар X з’езду ПАРП. Па дамове з выканаўцам, а было ім Рамонтна-будаўнічае прадпрыемства ў Бельску-Падляшскім, паасобныя чыгуначныя службы адкамандзіравалі сваіх майстроў на будову вакзала, якая працягвалася тры гады. Інвестыцыю здалі ў карыстанне ў кастрычніку 1989 года. Неўзабаве наступіла новая эпоха — рынечная эканоміка...

У бок Чаромхі павеяла холадам. На чыгуначных прадпрыемствах пачаліся рэарганізацыі і рэструктурызацыі, скарачаліся штаты рабочых. Буйна расцвіла адміністрацыя. Прытрымліваючыся дзяржаўнага закону, падзялілі чыгунку. З васьмі дырэкцый узнікла некалькі дзесяткаў суполак, у якіх на пасады ставіліся высокаплатныя

## ПАПРАЎКА

У артыкуле Сяргея Чыгрына „Лёс беларуса Мікалая Белакоза — бацькі Алеся Белакоза”(„Ніва” № 27 ад 1.07.2012 г.) намі была дапушчана памылка. На стар. 10 знаходзіцца здымак не *Мікалая*, толькі яго брата **Пятра Белакоза**. За памылку перапрашаем.

Рэдакцыя

## Адгаданка

1. нячэсанае круглае будаўнічае бервяно, 2. высокі царкоўны столік з пакатым верхам пад кнігі і абразы, 3. буйная драпежная марская рыба, 4. нарада, народны сход, 5. мілітарызаваная фармацыя, напрыклад, у Беларусі, якой устаўной задачай з’яўляецца ахова грамадскага парадку, 6. дняпроўская сталіца, 7. суседка Партугаліі, 8. здольнасць гаварыць, 9. аргенцінскі горад на Вогненнай Зямлі, 10. S, хімічны элемент, 11. вучэнне аб тысячагадовым зямным царстве Хрыстовым, якое павінна наступіць перад канцом свету (гр. *chiliasmos*), 12. Фабіян, беларускі палітычны дзеяч (1886-1943), 13. 31-я літара беларускага алфавіту, 14. ніз пасудзіны, 15. паўднёваамерыканская дзяржава з Магеланавым пралівам, 16. ён крумкачу вачэй не выкале, 17. свінскі нос, 18. вулей у дупле, 19. оперная песня, 20. германскі порт на Кільскім канале, 21. каўказская гара, 5047 м.

| | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | 1 | 2 | | | | 3 | 4 | 5 | | | 6 | | 7 | 8 | | |
| | | | | | | | | | | 9 | 10 | | | | 11 | |
| | | 12 | 13 | | | | 14 | | | | | | | | | |
| | | 15 | | | 16 | | | | | | | | 17 | | | |
| | | | | | 18 | | | | 19 | 20 | | | 21 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — фразу Аляксандра Лукашэнкі. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 23 нумара**

ААН, візір, Дызель, маці, Поры, Рыга, сем, Сухі.

Рашэнне: **З сухімі дрывамі і сырое палена згарыць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока

# 08.07 — 14.07

**(22.03. — 20.04.)** Адмоўны энергетычны ўплыў з боку можа выклікаць паломку тваіх асабістых рэчаў і прылад. У аўторак можа ўзрасці верагоднасць абвастрэння хранічных захворванняў. У чацвер можаш трапіць у новую сітуацыю. Калі ў суботу дарогу перабяжыць табе белы кот, гэтая прыкмета абяцае табе любоўныя прыгоды, стратныя для лёсу.

**(21.04. — 21.05.)** Звычайны працоўны будзень, напоўнены прыдзіркамі кіраўніцтва і работай. Даходы мяжуюцца з расходамі, прыбыткі са стратамі. У панядзелак нічога не падымай з зямлі. У аўторак спакойна бяры пазыкі і ўкладвай пад працэнты. Будзь вельмі асцярожны ў дачыненні са шклом. У суботу можа ажыццявіцца твая мара.

**(22.05. — 22.06.)** Рамантычны настрой не дазволіць займацца нуднай работай. Пошукі прапаўшых дакументаў і рэчаў поспеху мець не будуць, таму іх не раскідвай. У панядзелак можа табе закласці вушы. У аўторак новыя знаёмствы, таксама і рамантычныя. У сераду табе спатрэбіцца здаровы розум, таму што пагражае табе мана ці афёра. Пятніца — паваротны дзень, які можа шмат што змяніць.

**(23.06. — 23.07.)** Тыдзень бурлівы: чакае цябе мора эмоцый, праўда, не заўжды пазітыўных. Многія твае надзеі будуць звязаны з гэтым часам. Паявяцца добрыя ідэі ў плане ўзбагачэння, ды не спяшайся адразу іх рэалізаваць. Пачатак тыдня прынясе агульную ўвагу іншых да тваёй персоны. У аўторак не купляй на запас. У чацвер можаш страціць грошы з-за сямейнай сітуацыі. У суботу не давярай любой неправеранай інфармацыі.

**(24.07. — 23.08.)** Не кладзі грошай на стол, за якім ясі, таму што ўдача цябе пакіне. Магчымыя паводзіны, якіх пасля будзеш шкадаваць. Могуць быць раскрыты твае сакрэты. У сераду трымай меру ў салёным і вострым. У чацвер і пятніцу не бойся брацца за самыя шалёныя планы, не стрымлівай сябе і сваю фантазію.

**(24.08. — 23.09.)** У бізнесменаў незвычайна ўдалыя дамовы і аперацыі. Можна спадзявацца павышэння на рабоце. Заробіш добра, але ў калектыве. Дамы могуць заняцца сваім выглядам — вынік будзе вельмі відны. У панядзелак старайся не пераходзіць межаў. Аўторак багаты ў пладосныя ідэі. Нічога не абяцай у сераду. У чацвер магчымыя праблемы з органамі ўлады.

**(24.09. — 23.10**.) Прыйшоў час змяніць лад жыцця! Не займайся справамі іншых — няхай вырашаюць самі. Не давай парад знаёмым і сябрам, бо пасля абвінавацяць цябе ў сваіх промахах і стратах. Калі ў сераду папярхнешся, значыць — вакол цябе плёткі, ашуканства і інтрыгі. У чацвер сябры могуць нарабіць табе шкоды ў сферы тваёй прафесійнай дзейнасці (вашы адносіны не папсуюцца).

**(24.10. — 22.11.)** Прымірэнне ў пары. Маеш шанцы, каб пераканаць да сябе і сваіх ідэй усіх сваіх партнёраў і саюзнікаў (такая сітуацыя пасля можа не здарыцца). У панядзелак не спяшайся прымаць прапанову, бо можа аказацца не такой выгаднай. У аўторак можаш узяць штосьці ў крэдыт. У чацвер магчымыя непрыемнасці звязаныя з вадой. Субота добрая для тых, хто займаецца інтэлектуальнай працай.

**(23.11. — 22.12.)** Можаш зрабіць вельмі шмат, ды не рабі ўсяго адразу. Будзеш мець карысць ад капіталаўкладанняў. Вельмі ўдалыя паездкі і знаёмствы. Калі курыш, не кідай гэтай звычкі ў гэты аўторак. У сераду прапускай міма вушэй кампліменты і заўвагі наконт тваёй асобы — вакол цябе шмат зайздроснікаў.

**(23.12. — 20.01.)** Тыдзень багаты на новую інфармацыю і новыя знаёмствы. Не адмаўляйся ад кантактаў, таму што можаш пачуць шмат цікавага. Не саромся звяртацца за дапамогай у прафесійнай сферы. У панядзелак можаш не знайсці супольнай гаворкі з прадстаўнікамі ўлады. У сераду сачы за сваімі словамі, бо можаш раздзьмухаць немалы канфлікт. У пятніцу рамантычнае знаёмства з чалавекам здалёк.

**(21.01. — 19.02.)** Прыйдзецца скласці не адно пасланне. Перад тым, як пісаць любоўны ліст, натры паперу сухой лавандай. Беражы сваю галаву ў панядзелак. У сераду трэба будзе табе знайсці новы шлях для вырашэння праблем. У пятніцу лепш не прапануй сваёй рукі і сэрца, не засноўвай саюзаў і аб’яднанняў.

**(20.02. — 21.03.)** Хоць твае мары і рэчаіснасць здаюцца сабе далёкімі адно ад аднаго, ты павінен і пачаць ажыццяўляць свае планы. У панядзелак кантактуйся з калегамі, сваякамі, дзецьмі. У сераду ты пераможца на працы і ў пачуццях. У чацвер не памяшае табе пакарыстацца дапамогай збоку, праявіць дыпламатычнасць і ўвагу да людзей. У пятніцу наладзяцца цікавыя знаёмствы і тваё жыццё крыху зменіцца. У суботу знойдзеш тое, што даўно шукаў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Беларускае школьніцтва расцвіло!

Ад двух тыдняў па Беласточчыне кружыць вестка пра паездку беластоцкай модадзі ў Нью-Йорк. У свет паедуць яны па запрашэнні беларускай дыяспары са сваім спектаклем „Ой даўно, даўно”. Падляшскія хронікі ўжо паўтара года паказваюць на Беласточчыне і ўсюды, ці гэта на Сакольшчыне, ці на Сямятыччыне абуджаюць яны страсці і аднаўляюць памяць. Спектакль гэта свайго роду духовая і мастацкая візітка аб'яднання АБ-БА і беларускага школьніцтва ў Беластоку. А моладзь, якая выступае з гісторыямі сваіх продкаў, свядомая сваіх каранёў і абавязку перад родным.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК



Вось, традыцыйнае заканчэнне года ў Беластоку адсвяткавалі грунтоўна, прыгожа і шматразова, бо і нагода была асаблівая: 15-годдзе навучання беларускай мове ў школах Беластока і 15 гадоў тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр”. Святкаванні пачаліся ўжо 25 мая ў „Склепе з культурай”, які сам сабой з'яўляецца вялікім поспехам аб'яднання АБ-БА. На прэзентацыю былі запрошаны адно бацькі наймалодшых дзетак і, што тут казаць, ледзь памясціліся яны ў зале. Тут абавязкова прыгадаем, што калі пятнаццаць гадоў таму пачыналіся ўрокі беларускай мовы, на іх запісалася адно шэсць асоб. Не хапала аднаго дзіцяці, каб звычайна ў адпаведнасці з законам адкрыць навучанне ў класе. З дапамогай прыйшоў дырэктар „чацвёркі” Збігнеў Клімовіч, які прычыніў вока на ліміты і адобрыў ідэю навучання для шасці першакласнікаў. Сёння, пасля пятнаццаці гадоў, у Беластоку на ўсіх адукацыйных узроўнях — ад садка па ліцэй — родную мову вывучае 259 школьнікаў.

Першы дзень юбілею быў свайго роду дзіцячым святам. На пачатку выступілі дашкольнікі і дзеткі пачатковых класаў, якія займаюцца ў дзіцячай групе „Штудыя беларускага фальклору”. Яны выканалі дзве аўтэнтычныя народныя песні, якія развучылі з мінчанкай Ленай Ладуцькай. Далей, выступілі цудоўныя выхаванцы Анны і Пятра Васькоўскіх. Сярод іх былі многія дзеткі з садка, якія прыходзяць спяваць таксама ў „чацвёрку”. Прэзентацыю папоўнілі два каларытныя спектаклі: „Казка пра надта сумнага асла” і музычны эцюд „Звярынкі з глыбінкі”. Пастаноўкі ў выкананні малодшых школьнікаў падрыхтавала Аліна Ваўранюк, а музыку для „Звярынак” напісала таленавітая Анна Бабік, настаўніца з садка. Пяць дзён пазней, у цыкле Дыскусійнага клуба аб'яднання АБ-БА, з канцэртам выступіў бард Андрэй Мельнікаў. Сустрэчу папоўніў фільм Міколы Ваўранюка „Пустазелле”. Як заўсёды ў канцы школьнага года спецыяльна па заказе аб'яднання бацькоў адбыўся беларускамоўны малебен. Набажэнства выпала якраз у трэці дзень Тройцы, калі на Падляшшы асвячаюць крыніцы. Настаяцель Свята-Юр'еўскай царквы а. Рыгор Місіюк напомніў бацькам, каб сачылі за духовым выхаваннем сваіх дзетак, каб прыручалі іх да царквы. На канец малебна, згодна з традыцыяй, усе прысутныя праспявалі гімн „Магутны Божа”.



Кульмінацыя святкавання выпала 6 чэрвеня. У гэты дзень сапраўды можна было паглядзець як шматколерна расцвіло беларускае школьніцтва ў Беластоку. Узрушаная Барбара Пякарская, старшыня і душа аб'яднання АБ-БА, з годнасцю прымала паклоны і граматы гасцей з дзяржаўных установ і беларускіх дэмакратычных арганізацый. Даволі цёпла прагучэлі віншаванні ад Вольгі Сянкевіч, якая адзіная з ліку ўсяго асяроддзя беларускіх настаўнікаў павіншавала беластоцкіх калег, вучняў і бацькоў.

І пачалося свята. У аграмадным кінатэатры „Форум” амаль усе месцы былі заняты. На публіцы перавважалі дзеці, што само сабой унушала думкі пра далейшае развіццё і мацаванне беларускага школьніцтва. Мерапрыемства павяла студэнтка архітэктуры Наталля Швед. Наталля — сама сабой жывая ікона беларускага школьніцтва ў Беластоку. Пятнаццаць гадоў таму яе запісалі ў першы клас, каб разам з аднагодкамі вучылася радзімай грамаце, выступала ў конкурсах і гуляла ў тэатр. Наталля — лаўрэатка алімпіяды па беларускай мове. Зараз, пасля гадоў перапынку, яна натуральна ўвайшла ў ролю класнага беларускага канферансье. Яна, між іншым, запрашала на сцэну малодшых сяброў, якія паказалі пастаноўку „Гульня ў сонную каралеву”, спявалі песні ды падрыхтавалі сюрпрызы. Асобнай падзеяй была другая прэм'ера „Станцыі вар'ятаў” — музычнага спектакля на аснове слоў песень Агнешкі Асецкай. П'есу падрыхтавалі ў час мінулагодняга летніка для гімназістаў, які праходзіў у Бабіках. Пераклады належаць Аліне Ваўранюк, якая таксама гуляла разам на сцэне ў ролі цудоўнай Цыганкі. З дапамогай прыйшоў ім прафесійны беластоцкі акцёр Бернард Баня, які стаў рэжысёрам і адначасова іграў ролю Міліцыянта. Ролю самой Агнешкі Асецкай выконвала Дарка Вапа, якая натуральна ўвайшла ў ролю збунтаванай інтэлектуалкі. Незабыўны і каларытны персанаж Пасажыркі сыграла незаштампаваная Юліта Нікалаюк. Уся пастаноўка захапіла каларытнасцю і адчуваннем сцэны. Не дарма кажуць: тое, што сапраўднае, праяўляецца пасля гадоў. Пастаноўка разам са спектаклем „Ой даўно, даўно” прамаўляюць як развіццё і адначасова натхненне. На беларускіх выканаўцаў глядзела Агата Пасент, дачка Агнешкі Асецкай, якая (разам з Янам Баркоўскім) прыехалі спецыяльна на мерапрыемства з Варшавы.

Як мы ўжо сказалі, у ходзе святкавання былі віншаванні, падаркі і торт. Працяг юбілею выпаў на 18 чэрвеня, калі ў „Склепе з культурай” быў паказаны спектакль „Ой даўно, даўно”. Пяць дзён пазней беластоцкая моладзь завітала у Тэрэміскі, дзе ў сваю чаргу паказалі „Станцыю вар'ятаў”. Таксама 1 ліпеня ў Дубічах-Царкоўных былі паказаны „Падляшскія хронікі”, пасля якіх пачаўся там традыцыйны тыднёвы летнік для навучэнцаў беларускай мовы ў Беластоку. Словам, няма слоў, каб поўнасцю ацаніць шчырую і разумную ангажаванасць людзей з асяроддзя АБ-БА.



Пры нагодзе юбілею хочацца таксама ўспомніць добрым словам настаўніц беларускай мовы, якія працавалі ў ПШ № 11 — Тамару Бялькевіч і Надзею Хмялеўскую, настаўніц з НПШ імя Кірыла і Мяфодзія — Тамару Бялькевіч, Алжбету Руткоўскую і Іаанну Марко, настаўніц з Гімназіі № 7 — Аліну Ваўранюк і Альжбету Рудкоўскую, настаўніцу з ІІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя Іаанну Васілюк. І, вядома, усіх настаўніц з беларускага садка, якія першыя вучылі беларускім гульням і песням ды насілі ўсіх дзетак на сваіх руках.

ISSN 0546-1960